
XVIII Трыялог у Крынках
→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Разьбярскі пленер
→8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 38 (3201) Год LXII | Беласток, 17 верасня 2017 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**Падчас VII Бульбафэсту, які 2 верасня арганізавалі ў Ліпінах мясцовае аб'яднанне «Крыніца» і войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч, для шматлікай публікі былі падрыхтаваны цікавыя прапановы, якія тычыліся, між іншым, бульбы, яе апрацоўкі і рыхтавання бульбяных страў. Фэсту спадарожнічалі займальныя выступы беларускіх вакальных калектываў «Мілавіца» са Свіслачы, «Жаваранкі» з Махнатага і «Ручаёк» з Белавежы, адмысловыя майстар-класы і іншыя атракцыёны, якія прыцягнулі на мерапрыемства шматлікую публіку.**

# Традыцыя з бульбай





— Штогод на Бульбафэсце збіраецца многа публікі, якой мы прапануем актыўны адпачынак з конкурснымі спаборніцтвамі датычнымі бульбы. Публіцы будзем ставіць пытанні на тэму дзейнасці аб'яднання «Крыніца» ў Ліпінах, — сказала старшыня «Крыніцы» і заадно солтыс Ліпін Кацярына Якубоўская.

Спачатку на панадворку Кацярыны Якубоўскай некалькі маладых сем'яў сустрэлася пры печанай бульбе. Тады ўзнікла задума, каб праз год арганізаваць для мясцовага насельніцтва мерапрыемства з пячэннем бульбы, адным словам — бульбафэст. Ідэя заснавання аб'яднання «Крыніца» з'явілася пазней і была рэалізаваная ў 2013 годзе асобамі, якія жадалі актыўна праводзіць вольны час, супольна займацца, ладзіць мерапрыемствы і адпачываць. Аб'яднанне «Крыніца» стала афіцыйна ладзіць Бульбафэст і робіць гэта штогод. Пытанні, якія ставіла сабраным падчас бульбафэсту са сцэны войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч, тычыліся, між іншым, дзейнасці аб'яднання «Крыніца».

— Непадалёк ад Ліпін выцякае славутая крыніца, якую называюць «Крыначкай». Там сярод старых дубоў падчас святкавання Святой Тройцы збіраецца на малітву шмат людзей. Намоленае месца было таксама стымулам для заснавання аб'яднання «Крыніца». Мы дзейнічаем у карысць жыхароў Ліпін і суседніх мясцовасцей, якія падтрымліваюць захаванне нашай традыцыі і культуры. Мы намераемся рэалізаваць новыя праекты ў карысць мясцовага грамадства і шукаем новых крыніц фінансавання нашай актыўнасці, — сказала старшыня аб'яднання «Крыніца» ў Ліпінах Кацярына Якубоўская.

— Нашы дзеянні бяруцца з крыніцы, якой з'яўляецца традыцыя нашых продкаў, а мы — дзеячы «Крыніцы» — становімся такой жа крыніцай для моладзі. Хочам захаваць ад забыцця тое, што было найлепшым у мінулым і далучаем да гэтага новае. Дзейнічаем супольна, каб інтэгравацца і дайсці да маладых і старэйшых з інфармацыяй, што наша культура вартасная і непаўторная. Арганізуючы Бульбафэст, мы падтрымліваем культуру нашых продкаў і захоўваем яе ад забыцця, — сказала жанчына з аб'яднання «Крыніца», якое дзейнічае пад лозунгам «Нават самая вялікая рака не існуе без крыніцы». Падчас фэсту былі наладжаны спаборніцтвы па чыстцы бульбы за кубак войта Гайнаўскай гміны Люцыны Смактуновіч. Перамагла радная з Барысаўкі Лена Сцепанюк.

— Я ўмею працаваць і абіраць бульбу на дзве рукі, правай і левай. Можа гэта дапамагло мне стаць пераможцам конкурсу па абіранні бульбы. Збоку я пачула, што ў жанчыны ўжо рука стала балець ад чысткі бульбы, а калі ў мяне стамілася адна рука, то я пачынала працаваць другой, — заявіла Лена Сцепанюк, якая з рук войт і старшыні «Крыніцы» атрымала кубак.

— Бульбафэст, якога я з'яўляюся суарганізатарам ужо трэці раз, прысвечаны перш за ўсё бульбе, бульбяным стравам, пашырэнню ведаў аб вырошчванні бульбы. Сёння можна пазнаёміцца з лепшымі сартамі бульбы, якія дэманструе Цэнтр вырошчвання пасяўнога зерня і бульбы з Нідзіцы. Жыхары Ліпін, а асабліва тыя, якія належаць да аб'яднання «Крыніца», вельмі актыўныя на грамадскай ніве, хочуць і робяць многа дзеля жыхароў сваёй вёскі і ўсёй Гайнаўскай гміны, што мы бачым сёння. Ідэя Бульбафэсту — азнаямленне ўдзельнікаў мерапрыемства з мясцовай традыцыяй, культурай і гісторыяй. Мы людзям усіх узростаў прапануем, між іншым, майстар-класы, якія арганізуюць заснавальнікі і дзеячы тэматычных вёсак у нашай гміне — з Ліпін, Дубін і Барысаўкі, якія ўжо разгарнулі сваю дзейнасць, — сказала войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч.

У фэсце ўдзельнічалі мясцовыя самаўрадаўцы, дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Дубінах Міраслава Маеўская-Іванюк і дырэктар Комплексу школ у Дубінах Аліна Гіншт, якой вучні ў прадапошні дзень канікулаў адпачывалі і гулялі ў Ліпінах. У час фэсту многа дзетак зацікавілася працай пажарнікаў з Добраахвотнай пажарнай каманды ў Новым Корніне, якія прыехалі на фэст на вялікай пажарнай машыне. Паказалі яны вучням машыну і арганізавалі ім спартыўныя спаборніцтвы. Аднак спаборніцтвы для наймалодшай публікі тычыліся перш ха ўсё бульбы. Дзеткі выконвалі з яе чалавечкаў, стараліся як найхутчэй сабраць бульбу з тратуара. Яшчэ перад фэстам дарослыя рыхтавалі бульбяныя стравы, якія ацэньвала публіка. Падчас адмысловага конкурсу асобы з публікі адказвалі на пытанні пра паходжанне бульбы, яе вырошчванне і выкарыстанне ў харчаванні.

— Арганізуючы «Бульбафэст», мы робім стаўку на актыўны адпачынак публікі, а таксама прамуем здаровыя бульбяныя стравы, — сказалі арганізатары бульбяного фэсту. Ужо традыцыйна прапанавалі яны печаную ў вогнішчы бульбу, а сёлета — суп, які ў нашых вёсках называлі *кулеш*. У вялікіх чатырох катлах палявой кухні *кулеш* з бульбай зварыў кухар Пачатковай школы ў Новым Корніне Рыгор Анішчук. Суп смакаваў удзельнікам мерапрыемства і частка з іх прыходзіла яшчэ па дабаўку.

— Бульбяны гуляш у нас называецца *кулеш*. У мінулым варылі яго перш за ўсё з бульбы, з дабаўкай каўбасы і смажанай цыбулі, але дадавалі ў яго яшчэ пятрушку і кроп. Зварыў я *кулеш* у чатырох катлах па 120 літраў кожны. Публіка з'ела ўжо суп з двух катлоў і яшчэ столькі ж засталося для раздачы, — сказаў кухар Рыгор Анішчук, які сам наліваў суп з катлоў у пластмасавыя місачкі, а ягоныя памочніцы дадавалі яшчэ лыжку і хлеб. Спачатку выстойвала чарга, а пасля людзі падыходзілі і спакойна бралі місачкі з бульбяным супам і спажывалі кулеш.

Перад сабранымі выступілі салісты і мясцовыя беларускія калектывы — «Жаваранкі» з Махнатага і «Ручаёк» з Белавежы. У іх музычным кіраўніком з'яўляецца Марк Зубрыцкі з Белавежы. Зоркай бульбафэсту была жаночая вакальная група «Мілавіца» са Свіслачы. Госці з Беларусі спявалі, між іншым, песні пра бульбу, а размову з публікай вялі па-беларуску, што сабранымі было ўспрынята станоўча. У канцы свайго выступлення спявачкі запрапанавалі павучыцца беларускім народным танцам і цікава запрэзентавалі іх з удзелам публікі.

— Мы некалькі гадоў назад выступалі ў Гайнаўцы і Нараўцы, а сёння заспявалі для публікі Бульбафэсту і рады, што ўдзельнікі гэтага мерапрыемства так ахвотна ўключыліся ў вучобу народным танцам, — сказала спявачка «Мілавіцы».

Наймалодшыя дзеткі ахвотна гулялі на агароджанай пляцоўцы, спецыяльна падрыхтаванай да дзіцячых гульняў. Удзельнікі аб'яднання «Крыніца» з Ліпін, грамадскія дзеячы з Дубін і Барысаўкі арганізавалі падчас Бульбафэсту майстар-класы, адпаведна дзейнасці сваіх тэматычных вёсак — «Вёска бульбы Ліпіны», «Вёска асочніка Дубіны» і «Драўляная вёска Барысаўка». Вучні падыходзілі да месцаў, дзе прэзентаваліся атракцыёны тэматычных вёсак, і ахвотна прымалі ўдзел у майстар-класах, напрыклад па выконванні пастацей і прадметаў з бульбы.

— Дзеткі выконвалі чалавечкаў з бульбы, першапачаткова падчас конкурсу перад сцэнай, а пасля ў ходзе майстар-класаў, якія арганізуючы тут у рамках дзейнасці нашай тэматычнай вёскі. Пасля рабілі бульбаштампы, — заявіла Малгажата Добаш з аб'яднання «Крыніца».

— Мы частуем удзельнікаў мерапрыемства хлебам са шмальцам, агуркамі і іншымі традыцыйнымі харчамі, — сказала прадстаўніца ад «Вёскі асочніка Дубіны».

Збоку прэзентавалася «Драўляная вёска Барысаўка», дзе можна было пагуляць у гульні з драўлянымі рэквізітамі і купіць сувеніры выкананыя з драўніны жыхарамі Барысаўкі.

— Мы перад канікуламі арганізавалі майстар-класы па выкарыстанні драўніны для арганізаванай групы вучняў Пачатковай школы № 6 у Гайнаўцы. У Барысаўцы ёсць стары драўляны дом, на прыкладзе якога можна пазнаёміцца з вясковым будаўніцтвам у мінулым, — сказаў Міраслаў Мацеюк з Барысаўкі, сузаснавальнік тэматычнай вёскі.

Цікавым атрымалася выступленне тэатра «Шторм» са спектаклем «Ясь і Малгося» ў рэжысуры Іааны Стэльмашук-Троц. Дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Дубінах Міраслава Маеўская-Іванюк удакладніла, што калектыў «Шторм» з Дома дзіцяці ў Белавежы, якога ўдзельнікі таксама пасля цікава танцавалі, быў запрошаны, каб яшчэ больш зацікавіць бульбяным мерапрыемствам дзетак.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**





# Змаганне з сумам

Кожны змагаецца з сумам так, як умее. Нейкім падобным чынам выказваўся герой папулярнага старога кінафільма прынц Фларызель. Беларусы, у асноўнай сваёй масе, стаміўшыся наракаць на няўдалае надвор'е цягам года (ды і недарэчна стала наракаць у параўнанні з рознымі заакіянскімі ўраганамі), дачакаліся свайго ўлюбёнага часу. Улюбёны час насельніка нашай зямлі — гэта розныя дажынкі і збор асенняга ўраджаю. Адны ўжо кінуліся ў баразну капаць, а дакладней выбіраць бульбу, іншыя — у лясы, бо пасля шчодрага дажджу надышла цёплая пара і грыбы палезлі з моху і з-пад іглiцы, як тыя бежанцы і псеўдабежанцы ў еўрапейскія краіны. Некаторыя, найбольш вушлыя суайчыннікі, паспяваюць і на палеткі, і ў лес. На два франты, так бы мовіць, а то і на тры.

Што датычыць прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці, то і тут апошнім тыднем было не сумна. Адны фэсты вышывалі ладзілі, іншыя — адзначалі і святкавалі, як маглі Дзень беларускай вайсковай славы. Дзень перамогі ў бітве пад Оршай адзначалі, зразумела, што дастаткова ў сціплым фармаце, бо дзе тут разгонішся. Як той казаў, разгуляешся тут, як цяля на вяроўцы. Дзяржава даўно выціснула грамадскасць у невялікія рэзервацыі, але перасцерагаецца і працягвае яе пільнаваць.

Улады са свайго боку паразвешвалі расейскія сцягі ў той жа Оршы — ні то як знак поўнай капітуляцыі, ні то ў гонар нейкага супольнага турыстычна-спартовага мерапрыемства, прымеркаванага, канешне, невыпадкова да старадаўняй гістарычнай даты. Не забракла хлеба і відовішчаў і ў беларускай сталіцы. Там было шмат мерапрыемстваў да юбілею Менска. Цэнтральнае месца сярод забаваў адвялі міжнароднаму паўмарафону. Забег быў адзначаны незабыўным канфузам — толькі ён стартаваў, а неўзабаве ўжо ганаравалі пераможцу. Відаць, арганізатары так разбіраюцца ў спорце як свіння ў апельсінах. Праўда, неўзабаве схамянуліся і зразумелі, што фальшывы пераможца, зрэзаў палову дыстанцыі і бег фактычна з хуткасцю 21 кіламетр у гадзіну. Сюжэт для літаратуры.

Ва Украіне было намнога весялей у гэтыя выходныя. Не ведаю як вы, шаноўныя чытачы, а я заўсёды радуюся, калі ў суседзяў адбываецца нешта пазітыўнае. Да ўкраінцаў беларусы вельмі блізкія мовай і маюць да іх найбольшыя сімпатыі. Прыкмета гэта і па сацыяльных сетках беларускай супольнасці.

З вечара 9 верасня, фактычна ў ноч, Украіна назірала за баксёрскім паядынкам цяжкавагавіка Аляксандра Усіка з прадстаўніком Нямеччыны Маркам Хукам. Гэта быў сапраўды ўражальны спартовы бой, які скончыўся прыгожай вікторыяй украінскага атлета. Жоўта-блакітныя сцягі ганарова луналі на запоўненай нямецкай арэне і было надзвычай радасна за нашых суседзяў.

Назаўтра было вельмі прыкра за Украіну. Ледзь не палова Еўропы назірала за прарывам Мішыко Саакашвілі праз дзяржаўную польска-ўкраінскую мяжу. Да былога прэзідэнта Грузіі і кіраўніка Адэскай абласной адміністрацыі ў мяне асабіста супярэчлівае стаўленне. З аднаго боку — сапраўды плённыя рэформы ў грузінскай дзяржаве і актыўныя спробы рэфармавання ўкраінскай вобласці. З іншага — рэверансы і пахвалы ў бок начальніка дзяржавы РБ, які выказваў гонару Саакашвілі. Але тое, што зрабіў прэзідэнт Пятро Парашэнка, пазбавіўшы вядомага палітыка-рэфарматара ўкраінскага грамадзянства, не лезе ні ў якія вароты. Абсалютна відавочна, што прычына найперш не ў асобе Саакашвілі. Фактычна ўсе прафесіяналы, тыя адмыслоўцы з іншых краін, якія былі запрошаны ва Украіну дзеля рэфармавання дзяржаўнай сістэмы, не здолелі паразумецца і спрацавацца з карэннымі дзяржаўнымі чыноўнікамі. А гэта можа азначаць адно — ранейшая гідра карупцыі ва Украіне жыве і дабро нажывае. Дзяржава ў значнай ступені, а можа і найперш, бароніць інтарэсы алігархічна-бюракратычных кланаў. Украіна, калі і ідзе наперад, то занадта малымі крокамі. А хутчэй усяго яна топчацца зараз на месцы, наступаючы на тыя ж сама граблі. І вось ад гэтага і нам, беларусам, становіцца сумна. Бо так хочацца, каб суседзі давалі нам пазітыўны прыклад.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Жывёльны двор?

Працавіты, як вол, кажам пра кагосьці жартам. Як правіла, ніхто не крыўдзіцца гэтым параўнаннем, і нават мае нейкае задавальненне ад гэтага. Працавітасць цэніцца. Гультаяватыя лянівыя людзі не карыстаюцца грамадскім прызнаннем. Але на валу, якому адкуль ведаць, што праца акупляецца, працавітасць вымушаная ўдарамі і крыкамі. Не важна, што ён сам — дурны вол! У любым выпадку, параўнанне з ім вельмі спрэчнае. Дык давайце зменім «вала» ў «асла», які таксама з'яўляецца рабацягам, але больш башкавітым. Гэта гучыць прыгожа, «працавіты як асёл!». Калі прымемнім гэтае параўнанне да суседа, наробім сабе клопатаў. Асёл, акрамя працавітасці паказвае па чалавечым судзе нерацыянальную ўпартасць. Калі запрэцца капытамі, то нават калі біць яго друком, не зрушыцца з месца. Асліная ўпартасць стала ў чалавечым разуменні сінонімам дурнаты. Але тупасць мае шмат відаў. Яе відным варыянтам з'яўляецца непахісная вера ў праўату сваіх аргументаў. Гэта ўжо не асліная ўпартасць, а літаральна чалавечы выпадак. Пра чалавека можна сказаць, што часам ён упарты як асёл, а наконт асла цяжка сказаць, ці мае ён калі-небудзь погляды. Розніца паміж аслом і чалавекам такая, што калі аслу даюць папсаванае сена, ён есць яго не выказваючы свайго погляду. Калі не схоча яго есці, дык не і ўсё! Але чалавек, які мяркуе, што не адным сенам жыве чалавек, жкарэ дарэмнае сена да апошняй саломінкі. Нават калі ён заплаціць за пражэрлівасць уздуццем жывата. Упартасць асла заўсёды мае нейкі толк, а чалавечыя перакананні часцей за ўсё маюць тэндэнцыю быць недарэчнымі. Па-мойму праславутая ўпартасць асла гэта вышэйшы акт адчаю, кранаючы геразіму. Але калі б сказаць, што асёл гераічнае стварэнне, межавала б гэта са здзекам. Аднак хай тут насмешкі не будзе. Хутчэй за ўсё шчырае спачуванне да істот несправядліва высмейваных і злосць на бяздумных людзей. Калі пад цяжарам багажу на сваёй спіне асёл літаральна падае на пысу, няслрашныя яму ўдары ані крыкі. Якая розніца для яго, калі паміраe ад удараў або стомы? Але ў канцы жыцця пакажа свету, што мае характар!

Мае гонар таксама свіння, якая генетычна мала адрозніваецца ад чалавека — усяго толькі на некалькі адсоткаў. Мала, на столькі ж, на колькі адрозніваецца ад яго сваяк чалавека, шымпанзэ, неабавязкова пераўзыходзячы яе інтэлектам. Але хто адважыцца захапляцца інтэлектам свінні? Або сказаць шэфу: «Ты разумны, як свіння!».

Малпы людзей смешаць сваім падабенствам да іх. Часам расчульваюць. Але калі людзі хочуць даказаць сваю перавагу над кімсьці, празываюць яго малпай. Шкодніцай. Дурніцай. Я сустрэў такую. Я думаю, што ўсе з такой сустракаліся. Яна жыве ў зграі падобных да сабе, і з-за таго, што сядзіць на самым высокім суку, цвёрда перакананая ў праваце сваіх аргументаў. І хто ёй падскочыць? Што тычыцца свінні, чалавек ставіцца да яе з няслабнучай агідай. За тое, што мае яна задавальненне ад корпання ў сваім навозе і вішчыць. А вішчыць таму, што па-чалавечы не скажа. Можа яна галодная, прыгнечаная цеснатой хлява, у якім холад або жар, і заўсёды смярдзючы гной ды рой сякучых да крыві насякомых. Як у гэтых умовах абараніць сваю ўражлівую скуру? Найлепш упэцкацца граззю, як робяць па чалавечым паняцці высакародныя сланы. Толькі адкуль узяць чыстую гразь? Трэба мець выдатную інтэлігенцыю і інстынкт выжывання, каб абшмараваць цела дзеля абароны сваім уласным лайном. Цікава, што на гэта сказалі б услаўленыя мудрасцю і высакароднасцю сланы? Што тычыцца людзей, яны нягледзячы на агіду да свіней любяць жэрці іх плоць. А ў час свят амаль не лопаюць ад жратвы. Ісус Хрыстос, габрэй, пэўна ніколі не каштаваў свініны. Падобна як і Яго апосталы. Сёння, калі хтосьці — а так бывае! — сцвярджаючы, што ён хрысціянін, хацеўшы прынізіць габрэя ці араба, якія свініну лічаць нячыстай ежай, кідае ў яго свінню абрэзкам. «Калі вы без граху, першыя кіньце камень!» — казаў Хрыстос. Ну, свіны абрэзак — не камень. Някінутых камянёў не носяць у кошычку на пасвячэнне напярэдадні Вялікадня. А шкада.

Кіданне ў іншага чалавека крывавай плоццю іншай істоты, хай і свіною, акт крайняй агрэсіі. Гэтых меней экстрэмальных выпадкаў пыхі і варожасці не бачым, ці, дакладней, не хочам заўважаць. Праслаўтым «мясам» кідаюць сёння без якіх-небудзь абмежаванняў і меры. Грамадская прастора прыгадвае бойню. Узровень індывідуальнай калектыўнай агрэсіі расце, Сапраўды, оруэлаўскі жывёльны двор гэта не толькі метафара.

**Міраслаў ГРЫКА**



## Сваімі вачыма

# Кветкі меланхоліі

Пачатак верасня з яго дажджлівым надвор'ем увёў мяне ў настрой нейкай меланхоліі. Забурліліся ўспаміны даўняй і недалёкай мінуўшчыны. Перад вачыма праліваюцца безупынна вобразы людзей, якія ўжо апынуліся ў гэтым другім, мабыць лепшым свеце. З некаторымі пачынаю нават весці размовы, так не хапае іхніх разумных і добрых слоў у цяперашнім, зямным жыцці. Таксама ўяўленыя вобразы набіраюць вострых, насычаных рознымі адценнямі карычневасці колераў. Толькі дзе-нідзе пунсуюць жоўта-сонечныя праменні. Летнія і восеньскія кветкі, калі на іх гляджу, прыносяць суцяшэнне і асалоду для атакуючага дэпрэсняка. Мая мама вельмі любіла вырошчваць розныя кветкі вакруг дома. Нізкія і высокія, markedly разнакаляровыя. З самой вясны распачыналася квітненне і пчалінае гудзенне. З дня на дзень, з тыдня на тыдзень, разліваўся штораз мацнейшы водар ад гэтага зямнога ўпрыгожвання. Летнім вечарам усе пахі перабівала аднак мацейка, якая праз увесь дзень набіралася сілай, каб напрыцемку выбухнуць інтэнсіўнасцю сваёй натуры. Ёй канкурэнцыю мог толькі здаецца саставіць язмін, якога белае квітненне ўпрыгожвала не адну сялянскую сялібу. Вясной даносіўся і пах чаромхі, што найчасцей расла не пры хатах, але на занадворках. Не гледзячы на навал летніх прац, калі толькі праяўлялася нейкая засуха, мы з мамай раніцай і вечарам цёгалі вёдрамі ваду з калодзежа каб яны адпіліся дзеля выжывання і красавання. Каралевамі ў маміным агародзе былі аргініі. І калі гляджу зараз на панадворак Сакрата Яновіча, абсаджаны сотнямі кветак гэтага гатунку, то мае думкі аўтаматычна бягуць у родны дом. Маміныя аргініі заўсёды карысталіся запатрабаванасцю ў вясковых суседак. Яна іх не шкадавала нікому. Асабліва, калі рыхтаваліся яны да асвячэння кветак ў вярстоцкім прыходзе. Узаемаабмен кветкамі быў чымсці натуральным. Дададзеныя да такога букета каласы і зёлкі станавіліся прыкладам натуральнага адчування эстэтычнасці нашымі мамамі і бабулямі. Без фларыстычных курсаў іхнія букеты можна было б адправіць на самыя важныя выстаўкі кветачных упрыгожванняў. І калі на нашай тэрыторыі пачаліся ладзіць гмінныя дажынкі то сплеценыя некаторыя вянкі на гэтую ўрачыстасць былі ўжо сапраўднымі творамі мастацтва. Наш хатні агародчык меў і для нас, дзяцей, практычнае скарыстанне два разы ў год. На пачатак і канец навукі. У маёй маладосці ніхто не купляў для настаўнікаў кветак у гарадскіх квяцярнях. Бо хто на вёсцы папрэцца спецыяльна за гэтым таварам у горад. Шкада часу і грошай. Таму нашыя пані адтрымоўвалі ад вясковай дзетварні ўсе прыгажосці з гародчыкаў іхніх мамаў. Ніхто не дарыў па адной кветцы, як зараз прынята. Усе неслі аграмадныя букеты такой інтэнсіўнасці колераў і пахаў, ад якіх рэальна закружвалася ўсім у галаве. Станавілася іх так многа, што нашыя настаўніцы не забіралі іх да дому, але пакідалі ў школьных залах пакуль яны не засохлі. Ужо ў школьныя, ліцэйскія гады мы нашым настаўнікам дарылі не букеты з нашых дамоў, але куплялі перад усім гваздзікі, бо другіх кветак проста не было. Цюльпаны сваім квітненнем не перасякаліся са школьнымі ўрачыстасцямі. Да гваздзікаў потым меў я адмоўнае стаўленне і доўгімі гадамі мой зрок, а затым рука не працягвалася ў бок гэтых усё ж такі кветак. Зараз памаленьку мяняецца маё стаўленне і час ад часу трапляюць на мой стол. Цяпер, жывучы ў гарадской кватэры, не магу абысціся ад кветак прынамсці на стале. Стаяць яны ў мяне і ў Раство і Вялікдзень, а таксама другія святы. А летам і восенню то красуюцца па ўсёй хаце. Пад маім блокам, а таксама па вуліцы Юравецкай, па якой хаджу штодзённа, бабулі-пенсіянеркі прыносяць таксама і на продаж кветкі са сваіх агародчыкаў ці дачаў. Заўсёды, калі нават няма патрэбы ісці ў іхні бок, мае ногі, вочы і душа бліскавічна паварочваюць у іхні напрамку. І не застаюся толькі гледачом той прыгажосці. У маіх руках, а потым ужо ў вазонах грэюць яны маё сэрца і адганяюць дэпрэсняк. Пішучы гэтыя словы, на шчасце, яшчэ восеньскія кветкі цешаць нас сваёй натуральнасцю. Ад кветак і музыкі лагаднею і спакайнею.

**Яўген ВАПА**

# Прывіды Адама МІЦКЕВІЧА ў Крынках Сакрата ЯНОВІЧА (ч.ІІ)

## Інкарпарацыйная інвакацыя

У гэтым годзе XVIII Трыялог, прайшоўшы ў Крынках 1-2 верасня, праводзіўся пад выклікам-пытаннем **«Літва, мая Айчына?»**. Пытанне ўзятае са славутай, але ўвогуле не з пытальнай, інвакацыі да «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча.

«Літва! Ты, як здароўе ў нас, мая Айчына!...
Што варта ты, ацэніць той належным чынам,
Хто цябе ўтраціў. Вось красу тваю жывую,
Зноў бачу і апісваю, бо скрозь сумую».

Наадварот, маем мы ў ёй, як і ў цэлай паэме, узвышэнне выкрычанай упэўненасці, датычнай сваіх культурна-грамадскіх меркаванняў і выбараў. У выпадку аўтара — выбару польскасці як нацыянальнай і паэтычнай яго свядомасці. Такім чынам абшар беларускага Віленскага краю, адно з ядраў беларускасці, інкарпараваў Міцкевіч «Панам Тадэвушам» на наступныя стагоддзі і хіба нават да канца свету толькі ў польскі космас сакрум і прафанум. А названая Літва гэта толькі адна з правінцый тадышняй польскай краіны. Прыгожым мастацкім словам даказвае гэта Міцкевіч у кожнай з паасобных кніг сваёй паэмы. Інвакацыя, гэта словы-пачын, рэзерваваныя да самых эмацыянальна-духоўных прысяганняў. Найчасцей такая прысяга гучала перад Божым аблічам, але мела і дачыненне да векапомных выклікаў кожнага народа, ці ў днях славы, ці паразы. Сакрат Яновіч у сваёй празаічнай форме ўсёй сваёй творчасцю пісаў інвакацыю да беларускага народа, здольнага ажыццявіць і абараніць свае дзяржаўна-нацыянальныя інтарэсы. І дзесьці паміж вялікім горадам Беластокам і ягонай крынкаўскай далінай нараджалася ў яго галаве бязмежная Беларусь.

Далінай, поўнай у гэтым годзе не толькі лёсу, але і абцяжаранай сваімі пладамі яблынь, што галіны ў маўклівасці прыгнулі аж да самой зямлі. Відаць пагоркі Гродзенскага ўзвышша, якія зберaглі перад замаразкамі веснавое квітненне крынкаўскіх садоў. І Сакратава яблыня таксама надалей пладаносіць. А ў памяці застаецца іх смак і радасць, з якой абдорвалі нас імі ў дарогу Таня і Сакрат Яновічы, калі завяршалі мы свае размовы на лаўцы пад яблыняй і калі праводзілі нас адтуль пад фортку на вуліцу. Заўсёды пра такі яблычны ўраджай нашы старажылы паўтаралі безупынна, а за імі і Сакрат Яновіч: «У жніўні 1939 года быў неверагодны ўраджай яблык. А потым зараз выбухла вайна». Не дай Божа вайны нам зараз. Аднак яе прадчуванне і прывіды кружаць зараз па Еўропе. Сярод многіх-многіх палітыкаў заўважаецца, што яны быццам забылі да чаго прывялі і прыводзяць здані камунізму і фашызму ў яшчэ недалёкім мінулым і цяпер. Першага верасня адзначалася чарговая гадавіна выбуху Другой сусветнай вайны. На гродзенскім напрамку, за ўмоўнымі задворкамі Крынкак, ужо на беларускім баку мяжы расейкія вайскоўцы пры дапамозе сваіх падначаленых беларускіх саюзнікаў рыхтаваліся да вайсковых вучэнняў «Захад-2017», маючых на мэце вайну з прасторай менавіта... крынкаўска-навагрудска-полацкага пramежка. Тэрыторыю міфічнай міцкевічаўскай Літвы заняла не менш утапічная дзяржава Вейшнорыя, узніклая ў галовах генералаў з Лубянкі і палітыкаў з Крамля. Застаецца толькі роспачна запытацца: а ці ж гэта не Беларусь? І з беларусамі маюць ваяваць беларускія войскі? Вытанчаная правакацыя, а мо інкарпарацыйная інвакацыя рускага міру ў дачыненні да беларускай дзяржаўнасці? А тады згаданыя першыя радкі паэмы Адама Міцкевіч са змененым словам *Літва* на *Беларусь*, гучаць і б'юць па галаве з трывожнай роспачнасцю.

## «Больш за ўсё лжэдакумент» — Людміла Рублеўская

Так як у мінулым годзе вельмі цэннай і каштоўнай ініцыятывай было выданне адмысловага, інфармацыйнага, трыялогаўскага бюлетэня, у якім на польскай і беларускай мовах было змешчана свежанькае эсэ айца Кастуся Бандарука «Літва, мая Айчына?». Айцец Кастусь Бандарук у бліскучым інтэлектуальным расповедзе правёў падарожжа па падтэкстах, кантэкстах і фонах дачыненняў Міцкевіча і ягонай паэмы «Пан Тадэвуш» да беларускасці. Думаю, што ягоны тэкст павінен стаць абавязковай крыніцай для настаўнікаў польскай і беларускай моў у нашай трансгранічнай прасторы. Аднак, выбягаючы крыху ўперад і слухаючы мадэратара як і паасобных удзельнікаў дыскусіі, па маёй галаве блукала падазрэнне, што вышэйзгаданыя шаноўныя асобы ўсё ж такі не азнаёміліся з загадзя напісаным тэкстам айца Кастуся Бандарука, бо на значную частку іхніх інтэлектуальных пошукаў


Фота Хрыстафора Ангельчыка

і сумненняў можна было знайсці там адказы. Можа гэта мая празмерная падазронасць і несправядлівыя папрокі, але такое ўражанне ў мяне проста склалася. Але давайма па чарзе. Мадэратарам усіх частак дыскусіі быў Кшыштаф Чыжэўскі з Сейнаў, знаток творчасці Чэслава Мілаша і прыроджаны вядучы такіх дыскусійных сустрэч. Сваё адкрыццё сустрэчы пачаў менавіта з цытаты з Мілаша «Za trudny dla nas chyba ten Mickiewicz». Аднак, гледзячы з перспектывы ўсіх панэльных дыскусій, трэба прызнаць, што яго ўдзельнікі валодалі высокім узроўнем прафесіяналізму ў сваіх дзялянках і стараліся свае веды і назіранні данесці ўсім прысутным у прываблівай форме. Мелі месца панэлі, але не дуэлі.

У першай панэльнай дыскусіі — літаратурнай, прынялі ўдзел беларуская пісьменніца Людміла Рублеўская, літаратуразнаўца Радаслаў Раманюк, выкладчыца на паланістыцы Беластоцкага ўніверсітэта і аматарка беларусікі Кацярына Савіцка-Мяжынская. Не з'явіліся планаваныя ў гэтай частцы паэт і акадэмічны выкладчык Анатоль Брусевіч з Гродна і польскі пісьменнік-падарожнік Земавіт Шчэрэк. Дыскусія на літаратурныя тэмы генеральна засяродзілася на міфічнасці ў беларускай літаратуры і патрэбе яе стварэння, пра што пераконвала ў сваіх выступленнях Людміла Рублеўская. Можна гэта менавіта ажыццяўляць у гістарычных раманах, якіх пісаннем займаецца зараз спадарыня Людміла. Паспрабавала яна таксама паясніць прысутным крутыя дарогі беларускага адраджэння і дзве літаратурныя плыні так характэрныя для ўзнікнення вобразу беларуса ў XIX стагоддзі. Плынь мужыцкая, гэта перш за ўсё вобраз, выяўлены рускім пісьменнікам Мікалаем Някрасавым, і рамантычная плынь, збудаваная на творчасці Адама Міцкевіча з яго ідэалізаванай шляхецкасцю. Для многіх беларусаў — паводле яе — менавіта Адам Міцкевіч гэта важны чыннік самаідэнтыфікацыі ў той рамантычнай плыні. Не рускі, не паляк, але ліцьвін. Для пісьменніцы, маем тут дачыненне з паралелізмам тэрміна. Ліцьвіны — гэта беларусы. У ходзе дыскусіі Радаслаў Раманюк звярнуў увагу на фактар, што «Пан Тадэвуш» з рэалізмам не мае нічога супольнага. У паэме няма анікай згадкі пра беларусаў, а вобраз жыда Янкеля абсалютна непраўдзівы ў той рэчаіснасці. Міцкевіч схлусіў, ствараючы вобраз жыда як суперпатрыятычнага паляка. Тут задзейнічаў — паводле спадара Раманюка — палітычны кан'юнктуралізм Адама Міцкевіча, бо, як здаўна вядома, паэтычныя словы маюць вялікую разыходжанасць з рэальным светам. Менавіта Кацярына Савіцка-Мяжынская нагадала пра тое, каб мы не забываліся пра Міцкевіча як палітыка, які мае свае палітычныя амбіцыі і інтарэсы. І на ягоную творчасць трэба глянуць і ў такім кантэксце. Звярнула таксама ўвагу на ідэю Вялікага Княства Літоўскага надалей прысутную, напрыклад, у літаратурнай творчасці Падляшша. Як прыклад згадала нашу рэдакцыйную сяброўку Міру Лукшу з цыклам яе «Тутэйшых» вершаў.


Фота Хрыстафора Ангельчыка

## «На аснове фальшывай гісторыі, можна весці фальшывую палітыку» — Яўген Мірановіч

Другая частка дыскусій атрымалася гістарычна-палітычнай. А то дзякуючы яе чатыром удзельнікам. Прафесары гісторыі Яўген Мірановіч і Алесь Краўцэвіч, палітыкі і навукоўцы Павел Коваль і Вінцук Вячорка павялі вандроўку праз палітычна-гістарычныя, польска-беларуска-літоўскія складанасці з часоў сярэдневечча да апошніх падзей сучаснасці. Прафесар Краўцэвіч паясніў, што навукоўцамі канчаткова вырашана, што абшар тэрміна «Русь» паводле іх абазначае Віцебшчыну, Полаччыну, Магілёўшчыну. А ў дакументах сустракаюцца, напрыклад, згадкі пра «ліцьвіноў з Кіева». Затым прафесар Яўген Мірановіч дакладна ўсім растлумачыў, што канец міфатворчай Літвы канчаткова наступае з паразай студзеньскага паўстання. Пасля яго перад паасобнымі народамі сталі зусім іншыя палітычныя выклікі. У супрацьлегласці да ліцьвінскасці польскай культуры стаяў вельмі моцны ідэйны напрамак западнарусізму, заснаванага ўраджэнцам Кузніцы-Беластоцкай Міхасём Каяловічам. Калі глянуць на беларусаў канца XIX стагоддзя, то найбольш іх, паводле перапісу 1897 года, пражываючых у адным месцы запісалася ў... Санкт-Пецярбургу, тадышняй сталіцы расейскай імперыі. З тадышніх, акрэсленых там ста тысяч беларусаў, выйшлі ідэі і ініцыятывы, якія вызначылі характар і напрамкі беларускай палітыкі і культуры ў першых трыццаці гадах дваццатага стагоддзя. Пра дачыненні да сённяшняй палітычнай складанасці беларуская пытання аднёсся Павел Коваль, у нядаўнім мінулым былы віцэ-міністр замежных спраў Польшчы і еўрадэпутат. Для яго выклікам польскай палітыкі, гісторыі і асветы з'яўляецца празмерная яе «крэсовасць». Як нават з лагічнага пункту гледжання можна гаварыць «крэсы» на такія гарады як Вільня ці Львоў? Крэсы то там, дзе няма межаў і няма хрысціянскіх метраполій розных верavызнанняў. Таксама рыжскі дагавор быў для Польшчы і яе суседніх беларускага і ўкраінскага народаў аніякай перамогай, толькі трагедыяй. Павел Коваль падкрэсліў ролю Яна Паўла II менавіта як палітыка і прыхільніка ідэі ягелонскай Польшчы. Вінцук Вячорка, беларускі палітык, засяродзіўся над пагрозамі страты суверэнітэту сённяшняй Беларусі. «На шчасце не маем мы пакуль свайго Данбаса. Але не маем і свайго Львова», — трапна заўважыў мінскі госць.

У трэцім панэлі прынялі ўдзел вядомая на ўвесь культурна-мастацка-выставачны свет Анда Ротэнбэрг з Варшавы і славуты Анджэй Струміла — мастак, графік, скульптар з Мацьковай Руды, што на Сувальшчыне. Зараз усё Падляшскае ваяводства ўвесь год адзначае ягоны жыццёвы юбілей. Асноўнай розніцай паміж гэтымі выступоўцамі было тое, што спадарыня Анда не арганізавала б асобнай выставы беларускага мастацтва, так як і, напрыклад, жыдоўскай. Векавы прафесар быў згодны паднята такой рызыкі і ініцыятывы. Для іх вельмі важнай справай у сэнсе культурна-мастацкіх праекцый з'яўляецца згубленасць раз назаўсёды шматнацыянальнасці і шматмоўнасці гэтай часткі Еўропы. Ягоную прыгажосць праспявала потым Караліна Ціха. Каўказская сінагога адчаравала сябе сваёй музычнай спадчынай даваенных Крынак.

Яўген ВАПА

## Вера і кветкі

Вера Клімюк, жыхарка Плянты Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета вельмі любіць кветкі — і тыя ў агародчыку, і тыя ў вазонах. Каля яе дому цвітуць кветкі ад вясны да позняй восені, да рознакаляровых астраў. У яе каля двух дамоў (адзін з іх драўляны, з ганачкам, памаляваны светлай жоўтай фарбай) невялікі садок (растуць тут яблыні і грушы), дагледжаны, прыемны панадворак. Ёсць стаў. На градках вырошчвае агародніну (сёлета ўрадзілі агуркі). З трох бакоў сядзібы многа перш-наперш ліставых дрэў. З акон дома В. Клімюк відаць старыя, але яшчэ пладавітыя яблыні з вялікімі даспелымі яблыкамі і зараз пустуючы прыгожы драўляны дом брата яе мужа незабыўнага Уладзіміра Клімюка, былога ніўскага вернага чытача і карэспандэнта (ніжэйпадпісанага ён лічыў сваім вялікім сябрам). Кветкі — аздобныя расліны — любяць таксама яе мама і дзве замужнія сястры.



Жыццярадасная спадарыня Вера гадуе самыя розныя кветкі, летнія і асеннія. Мае ружы, лілії, браткі, пеларгоніі і іншыя. Кветкі ў вазонах мае павешаныя пад высокім дашкам над усходамі ў мураваны вялікі дом. Прысвячае ім шмат свайго вольнага часу. Гэта адзін з яе самых любімых заняткаў. Яны — яе радасць, папраўляюць настрой. Сумна ёй, калі восенню тыя ці іншыя кветкі адцвітаюць, марнеюць ды сохнуць. Восень тады становіцца такая маркотная, панурая, шэрая. Вера Клімюк любіць, калі мужчына з той ці іншай нагоды (вось набліжаюцца імяніны Веры, Надзеі і Любові 30 верасня), або ўвогуле без яе, падорыць ёй кветкі ў вазоне. Ссечаныя і пастаўленыя ў ваду не пастаяць доўга. Іх ёй шкада, бо тады іх кароткае жыццё.

Варта дадаць, што Вера Клімюк ужо многа гадоў верная чытачка „Нівы". У яе вялікая зацікаўленасць родным часопісам. Нашу беларускую газету чытаў яе святой памяці муж Яўген.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Прыгожы прыстрэшак

Прыгожы прыстрэшак красуецца зараз на аўтобусным прыпынку ПКС у вёсцы Бандары Міхалоўскай гміны Беластоцкага павета. Да гэтага года не было тут ніякага дашка. У дождж, хто чакаў прыезду аўтобуса ПКС, той мок або стаяў пад парасонам.

Першы раз я ўбачыў прыстрэшак з акна аўтобуса ПКС раніцай 6 ліпеня гэтага года. Сцены яго быццам са шкла, а можа яны сапраўды з тоўстага шкла, празрыстыя. Праз іх з двух бакоў відаць ці едзе аўтобус. Выкладае эстэтычна. Мае актуальны расклад язды аўтобусаў ПКС. Ён падобны на прыстрэшак, які мае Міхалова. У цэлай Міхалоўскай гміне мо ўсяго два такія відныя прыстрэшкі. **(яц)**

## Святліца ў Лешуках

Зараз заканчваюць будаваць новую святліцу ў Лешуках Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Засталося яшчэ зрабіць, між іншым, пад'езд да вясковага дома культуры. **(яц)**





Фота Хрыстафора Ангельчыка

Pudełko. Odczynianie guseł Mirona Białoszewskiego

# Пудэлка

**Хаця ёй больш за восемдзесят гадоў, сама нарвала малін і засыпала цукрам, не шкадавала. Не ведала майго нумару тэлефона. Абзваніла ўсіх знаёмых у Крынках. Ніхто не паднёс трубкі. У канцы, узяўшы ў рукі тэлефонную кніжку, знайшла тэлефон маіх бацькоў.**

На даўжэйшую гутарку ў яе белагорскай хаце часу мне не хапала. Але Ніна разумее, што менавіта так выглядае жыццё крыху малодшых за яе. Яна ж таксама была калісь маладая. Здаецца, чужая жанчына, а такая блізкая, родная. Узяўшы вядро поўнае смакоцця і шчырага сэрца, адпраўляюся назад. Вельмі хочацца паспець на тэатр, на любімы матыў старажытных Дзядоў, у гэты раз пастаўленым крыху вядомым мне Паўлам Пасіні і зусім невядомым Яцкам Копцінскім. З празмернасці абавязкаў не паспяваю на гэтую незвычайную падзею памыць галаву, а тым больш яе высушыць. Маю праблему вырашае любімая, белая хустачка, калгасная, памятка па суседцы Вользе Сідаравай.

Перад спектаклем заглядаю ў Галерэю «Крынкі», ужо пасля адкрыцця выстаўкі Яна Грыкі «......да нажоўшчыка з Крынак». Памятаю толькі другую частку загалоўка выстаўкі, толькі яна мне зразумелая, добра зразумелая. На сцяне некалькі выяў таго ж чалавека. Узорнага, паспяховага грамадзяніна Крынак у цёмным касцюме, з заручальным, залатым пярсцёнкам на пальцы. Узорны муж, сем'янін з першых лавачак у касцёле, а ўсё-такі з крывёю на руках. Але гэтая кроў застаецца ў межах уласнага панадворка, уласнай хаты.

Паспяховы мужчына шпацыруе па вуліцы пад ручку са сваёй паспяховай жонкай і тлумачыць усім астатнім: «З вамі, таварышы, нешта не ў парадку, адзіным парадачным тут з'яўляюся я сам і, вядома, мая жонка». Няважнае, што паспяховая жонка хавае свае сінякі — сляды заклапочанасці сямейным жыццём не правільнага мужа — пад сонечнымі акулярамі ў дажджлівы дзень і што неба плача разам з ёй. Няма спосабаў, каб зварушыць адзіныя правільныя законы крынскага нажоўшчыка.

У галерэю праціскаюся праз натоўп добра выпіўшага народу. Ведала, калі прыйсці, каб спакойна нацешыцца мастацкімі адметнасцямі. Спектакль спазняецца. Нейкі п'яніца ў дзвярах галерэі глядзіць на мяне галоднымі вачамі. Хтосьці іншы зусім мяне не пазнае, пакуль сама яго не зачапаю.

— Багатая будзеш, — кажа ашарашаны.

— Не буду я ўжо багатай, — адпавядаю шчыра, ад душы.

Стаю пасярод падгалерэйнага народу і разумею, што няма з кім загаварыць. Адчуваю сябе адзінокай. Які кантраст. Яшчэ гадзіну таму цешылася я сустрэчай з падкрынскімі вяскоўцамі. А тут холадна, быццам у Варшаве. Як не дзіўна, большасць з прысутных мне добра вядомая, але яны па-варшаўску недаступныя, яны ж з абы-кім не звязваюцца. Іх ап'яненне галерэйным віном таксама варшаўскае. Варшавякам заўсёды мала, а калі яшчэ нешта бясплатна раздаюць, дык увогуле самакантроль прападае. Малая, падгалерэйная Варшава, перамешаная з Беластокам — мясцовымі «слоікамі», бо інакш іх не назваць.

Урэшце адкрываюцца дзверы крынскай бажніцы — часовага тэатра. Хто першы, той лепшы. А я і так найлепшая, улезла амаль на калені Паўла Пасіні. Стараюся не затаптаць каштоўнай апаратуры. Але што ж рабіць, калі публіку загналі на цесную сцэну, а акцёраў — на прасторную глядзельную залу. Удакладняючы, акцёркі і аднаго акцёра. Атрымаўся сапраўдны куратнік родам з маіх сяброўскіх Белагорцаў.

Гавораць, што ў падбелагорскіх лясах паявіліся рысі і курэй тузінамі душаць. Нінка рашыла ўключыць пад куратнікам радыёпрыёмнік, сапраўднае Радыё Марыя. Там жа ж адзінае, безупыннае маленне, самая праўдзівая, найсвятлейшая, беззаганная праўда. Яна напэўна перамажа шкодніка, пераможа цёмнае і глухое. І няважна што па-суседску з куратнікам жывуць сабе навукоўцы, якія ў Радыё Марыя не вераць. Яно літаральна высмоктвае з іх цэлую жыццёвую энергію. Аказваецца, не толькі з іх. Нінка прызнаецца, што калі раптам выключыць радыёпрыёмнік, куры трацяць жыццёвую раўнавагу, туманеюць, быццам іх нехта ў галаву малатком стукнуў. У адчаі стукаюць дзюбамі ў радыёпрыёмнік, шукаючы гуку-наркотыка. Калі на двары дождж, а ў хлеўчыку ўлюбёная радыёперадача, кладуцца яны ў калідорчыку і ляжаць, быццам у трансе, у радыёмарыйным небе. А навуковец вар'яцее, гатовы жыццё сабе і іншым адабраць. У спектаклі «Pudełko. Odczynianie guseł Mirona Białoszewskiego» месца белагорскага радыёпрыёмніка займае старадаўні магнітафон маркі «Грундзіг». А цэлы сцэнічны куратнік трансуе, дабіраючыся да свайго неба ў рытм славутай драмы Адама Міцкевіча. Загаловачная скрынка-пудэлка змяшчае ў сабе, быццам руская матрошка, штораз меншыя і штораз менш важныя скрыначкі. Усё пачынаецца з найважнейшага, беларускага слова, сказанага над магіламі продкаў у дзядоўскую ноч. Гэтае важнае слова запісаў калісь Міцкевіч, праўда, ужо не па-беларуску. Пасля быў Бялашэўскі, які запісанае Міцкевічам паўтарыў у свой «Грундзіг». Цяпер за яго «Грундзігам» паўтараюць тэатральныя курыцы. Іх кудахтанне перапыняе гусляр заклікам «куры на месца». Але курыцы працягваюць сваю балбатню, якой свайго часу так захапляўся Бялашэўскі. З польскай пераходзяць на польска-ідышоўскую. Можа ў памяць ахвяр паўстання ў варшаўскім гета, з якіх так цешыліся суседзі на другім баку муравага плота. Менавіта гэты балючы эпізод быў выкраслены цэнзурай з яго «Pamiętnika z Powstania Warszawskiego». Паліфанія мовы курэй, гусляра, Бялашэўскага, Міцкевіча і музыкі Паўла Пасіні набірае хуткасці, куры вар'яцеючы, раздзяваюцца і голыя ўлазяць адна на другую. І ўсё вяртаецца да пачатку, да першага дзіцячага слова, да цёмнага і глухога. І прыйшла ноч, зачыніла скрынкі, а голыя курыцы палягалі спаць.

Наступны дзень адчыніў новыя скрынкі. У гэты раз загаварыў Выспянскі, неспадзявана маімі вуснамі, антыпартыйнай партыяй Журналіста ў дыялогу з Чапцом. Выказалася невыказанае ў адпаведным месцы і часе. Крынскае, народнае чытанне «Вяселля» ўвайшло ў беларуска-міцкевічоўскае, дзядоўскае вымярэнне.

Далей толькі кудахтанне курэй. Паўтаралі паўторанае, пачыналі пачатае, не даводзячы ніводнай думкі да нейкага сэнсоўнага завяршэння. З нудаў нехта выцягнуў бутэльку чорнай кавы на самагонцы — адзіны паратунак у вяртанні ў своеасаблівы транс, своеасаблівае, бясклапотнае, свабоднае ад прэстыжнай, чыстай, светлай гаворкі неба.

Прэстыжная дыскусія завяршылася прэстыжным канцэртам. Нехта там праспяваў быццам па-англійску. А можа гэта не англійшчына, а толькі чарговая, бялашэўская ігра гукам. У любым выпадку, быццам забегшыя ў белагорскі куратнік куры, спакойна калыхаліся ў рытм псіхадэлічных гукаў, крыху атуманеныя захапляліся прыгожымі здымкамі вяргіняў з Сакратавага агарода.

**Іаанна ЧАБАН**

# Салодкае захапленне Адама

**«Мінула ўжо 23 лістапада 2016 года. Мінулі Тры гады і Дзесяць Месяцаў, як ты, Мамачка, з Анёламі. Гэта ўжо Тры гады і Дзесяць Месяцаў, як ты, Мамачка, з Анёламі. Так, ужо Тры Гады і Дзесяць Месяцаў ад смерці найкаханай у свеце асобы. Гэта ўжо Тры гады і Дзесяць Месяцаў, калі Мама ў Небе. Тры гады і Дзесяць Месяцаў калі пакінула нас тут на зямлі. Тры гады і Дзесяць Месяцаў, праз якія мусілі прайсці і далей ідзем. Туга, сум і жаль такія вялікія, якіх не апішаш словамі. І з кожным днём цяжэй. Хаця мы ўжо дарослыя і пагадзіліся з гэтым, што Яна да нас ніколі не вернецца. На даем сабе рады з болем, які маем у Сэрцы. За гэты цяжкі час мы рабілі ўсё, як хацела б гэта Мама, былі ўзлёты і ўпадкі, сум і радасць, плач і смех. Ды так цяжка жыць у такой нішы — няма яе пры нас, калі яе вельмі патрабуем, калі ёсць праблемы. Мама ведала б, як іх вырашыць. Хаця і Я, і мае Браты і Тата маем сваё жыццё, усё ж у нас штосьці кепскае адбываецца. Я стараюся памагаць ім у цяжкія хвіліны, але часам цяжка штосьці параіць, паказаць. На жаль, Мама не паспела мяне ўсяго навучыць, перадаць і параіць, але ведаю, што мае сябе. Маем частку Любові, якую дала нам МАМА. Вельмі кахаем Яе і незалежна ад супраціву лёсу мы малайчыны і справімся з гэтымі цяжкімі хвілінамі...»**

— гэты верш Адам Саласкевіч штогод публікуе на фейсбуку, успамінаючы сваю Маму. Але напісаў не толькі гэты верш, хаця сапраўды не мае часу яшчэ і пісаць.

На «Сяброўскай бяседзе» шэсць гадоў таму мама Адама падышла да журы конкурсу на верш пра свята і з гонарам сказала, што з'яўляецца мамай аднаго з пераможцаў. Напісаў ён вельмі спелыя вершы, а быў яшчэ гімназістам гарадоцкай школы. Праўда, ужо тады буяў як тая сасонка ў Барыку. Нясмела пацягнуў маміну руку — чаго ж хваліцца! «Малайчына мой сын, а такіх зухаў у мяне дома некалькі!» А цяпер Адамавай мамы няма, і прыходзіцца Адаму і святкаваць, і працаваць за сябе і яе. Не сам ён. Відаць па тым, колькі ў яго сяброў і ў Гарадку, і ў школе, і на фейсбуку. Усім ён дорыць сваю сардэчную ўсмешку, упрыгожвае іх як умее як прафесійны цырульнік, і падкормлівае салодкім і не толькі. На фейсбуку мае сваю старонку «Маё салодкае захапленне». А на старонцы фатаграфіі вырабаў, і здымкі прыгажунь, сваіх сябровак. І ўсё што робіць, выклікае сімпатыю і радасць — і цуды, якія спёк, і тое, што здаў экзамен на вадзіцельскія правы на машыну, і што стаў ганаровым донарам крыві... Асабліва ўпадабаў святочныя вырабы — пірагі, караваі, пасхі. Ён і апіша так, што аж смачна чытаецца: «Сырнік з пенкай і свойскай фружалінкай з персікаў...». Вучыўся ў прафесійнай школе № 17, дык якраз ягоныя вырабы аздобілі юбілейны стол гэтай заслужанай школы, якая выпусціла шмат прафесіяналаў у можа не надта прэстыжных прафесіях, але без якіх жылося б нам цяжка.

Адам на сваім чыстым і шчырым твары дорыць усім усмешку, хаця турбот у яго няма. Перажывае за братоў, за тату, якому нялёгка стала быць адзінокім бацькам і справіцца з гаспадаркай. Але хто ж не паможа яму, як прафесіянал у хатняй гаспадарцы? Пэўна, нават зайздросцяць яму нават гарадоцкія ўмелыя гаспадыні, майстрыхі на ўсе рукі і галасы — а Адам вельмі любіць пабалакаць з цёткамі, параіцца досведам, а нават і памагчы, асабліва калі часу ў іх няма. І дзяўчаткам паможа, і цётачкам. Вось сярод выпечак на конкурс — вельмі шмат ягоных вырабаў, бо кожны гурт, малы ці вялікі, падносіў да бяседнага стала рознае смакоцце. Перш за ўсё ішлі з караваямі, пукатымі і бліскучымі пірагамі. І дзяўчаткам са школьнай «Казкі» памог спячы іхні пірог, стылёва аздоблены як выпадае дзеткам, і «Расспяваны Гарадок» з ім раіўся. А сам Адам спёк ад свайго імя адзін каравай не зусім тыповы, бо з макам. «Крыху эксперыментальны, можа не так удаўся, як планаваўся. Мак цяжкі, і многа яго тут. А як, вам спакуе?». Гэта мала сказаць, што ён «пышны»! Вызваў у маім мозгу (усё ж найбольш чуе смак мозг, а не язык!) нейкія неверагодныя проста асацыяцыі са святам, з полем, з летам... Проста — паэзія!

— Ай, для мяне можа быць другое ці трэцяе месца за мой выраб, — смяецца Адам, гледзячы зверху на свой імпазантны выраб. — Сам рабіў. Мяне называюць часам «чалавекам-аркестрам». Я перш за ўсё цырульнік, але розных талентаў у мяне хоць адбаўляй. Ва ўсё ангажуюся — і ў розныя саперніцтвы, конкурсы, і ўвогуле ангажуюся. Цікавей жыць. Ахвотна ўключаюся ў розныя мерапрыемствы — і для гміны, і для школы. Мне цяпер ужо дваццаць два гады. Толькі што скончыў спецыяльнасць цырульніцтва з касметалогіяй, і студыю татуіроўкі. А гастранамічную кончыў у 2011 годзе. Кухар я па прафесіі. Кажуць на мяне «ogólnokierunkowy». Але іду далей, буду працягваць далейшае навучанне. Цырульніцтва — дапаўняльны тэхнікум, кончу яго, здам матуру, і хачу ісці ў вышэйшую школу. На дзённую касметалогію, а завочна — дыетэтыку. Ну, вернемся да майго каравая. Я рабіў яго з макам. Хацеў такі зрабіць першы раз. У мінулым годзе я спёк звычайны дражджавы пірог, і ў конкурсе заняў другое месца на «Сяброўскай бяседзе». А гэты каравай з макам важыць тры з паловай кілаграма, я спёк яго адмыслова на конкурс. Трошкі апаў, бо калі мак застыў, над ім зрабілася пара у караваі, і ён крыху меншым стаў. Паўтара кіло дражджавога цеста, расло, і макавая маса... Цяжкі гэты каравай. І памог сёлета з караваем "Расспяванаму Гарадку". А для паняў, што тут займаюцца гміннымі справамі, зрабіў да кавы два макавікі, бабачкі з яблыкамі, і птысёвыя гнёздачкі. Ну і дражджавую халку. А для гарадоцкіх гаспадынь зрабіў цэлую скрынку пончыкаў, з рознымі відамі джэмаў і крэмаў. Вельмі ангажаваўся, для іх радасці. Будуць мець што ўспамінаць, мой пачастунак! Бо калі пайду жыць у Беласток, дык на наступны год не буду столькі планаваць.

— Мая мама памерла... У студзені будзе пяць гадоў. І бабуля Хлябічова памерла. Антаніна. З Валіл-Станцыі. Дзядуля каня меў, вазіў людзей на кулікі, рабіў агародчык... Усё жыццё працавалі, рук не складалі. Я цяпер жыву з малодшым братам, і з татам, на Рудзе. Дома прыбіраю, сціраю, вару... Хтосьці мусіць. Хаця мне гэта не мяшае. Толькі калі паеду ў Беласток, буду жыць у старэйшага брата — у яго ўжо жонка і двое дзяцей, пэўна і там неяк аддзячу, буду памагаць. Але мяне турбуе, як тата дасць сабе рады. Будзе мусіў неяк справіцца... Мужчынам трэба быць!





Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

# З шапак можна было жыць



Прафесія шапачніка сёння забытая, аднак людзі надалей ходзяць у шапках. Размова з **Генрыкам КАМІНСКІМ**, жыхаром Орлі, народжаным у 1958 годзе ў Бельску-Падляшскім, які прафесію пераняў ад бацькі і цягам чвэрці стагоддзя шыў шапкі і палатняныя капелюшы.

— **Калісь шапачнік...**

— У пасляваенных гадах на Беласточчыне прафесія шапачніка была ў пашане. Не было такой даступнасці тавараў як сёння, калі маем усё кітайскае. Калісь рамеснікі — шапачнік, каваль, рымар — былі ў павазе; жылі са сваёй працы. Прафесіі шапачніка трэба было вучыцца тры гады, каб атрымаць званне чаляднїка, пасля трэба было здаць экзамен і тады чалавек станавіўся шапачнікам. Мой бацька Мар'ян вучыўся прафесіі ў пасляваенных гадах у яўрэйскага шапачніка Ёсіфа Бацкеля ў Беластоку, па вуліцы Варшаўскай. Пасля тую прафесію пераняў я, а пазней мая сястра Данута.

Бацька займаўся таксама скупкай і продажам качаных валёнкаў. Спярша мусіў купіць авечую воўну і завезці ў Студзіводы, дзе такія валёнкі выраблялі. Калісь, пры камуне, можна было выжыць толькі з шапак. На месцы, у Бельску-Падляшскім, дзе жыла наша сям'я, справы ішлі добра, ад панядзелка па пятніцу ездзілі па Беласточчыне па рынках. Па панядзелках бацька ездзіў то ў Саколку, то ў Браньск, па аўторках у Сувалкі або Саколы, па серадах у Гайнаўку або Гіжыцка, па чацвяргах у Бельск або Кнышын, а па пятніцах ездзіў аж у Кольна.

— **Многа ездзіў. А калі шыў?**

— Шыў таксама. Меў вучаніц, якіх навучаў прафесіі. Маці Галена дапамагала шыць. У тадышніх гадах не было такой школы, дзе было тры дні навукі, а два ў рамесніка. Калісь трэба было цэлы тыдзень у майстэрні вучыцца. А пасля трох гадоў быў экзамен у беластоцкім Цэху розных рамёстваў. Калі атрымлівалася званне чаляднїка, тады можна было пачынаць сваю дзейнасць. А каб кагось навучаць, трэба было мець званне майстра.

Усе шапкі прадаваліся. Шапкі шылі з матэрыялу або са шкур — трусоў, лісоў, нутрыі. Шапкі таксама шылі на заказ паводле меркі і з даручанага матэрыялу — тады кліенту выходзіла танней.

— **Пашыць шапку гэта складаная справа?**

— Калі хтось любіць гэтую прафесію, то нічога складанага. Каб пашыць футравую шапку трэба перад кройкай браць пад увагу прыляганне ворсу, бо інакш шапка не будзе мець выгляду. На кожную шапку трэба выразаць пяць або шэсць кавалкаў шкуры; пасля ўсё сшываецца, дадаецца з сярэдзіны падшэўку і шапка гатова.

— **Чаму сёння няма шапачнікаў: памянялася мода ці клімат?**

— Памяняўся час, прыходзіць танізна з Кітая і барахло. Шапачніцтвам займаўся я з 1977 па 2000 год, ездзіў па рынках так як раней бацька. Сам шыў, дапамагала жонка Ірэна. Тавар сходзіў па рынках, а нават на месцы, у самой Орлі. Калісь, у 1980-х і 1990-х гадах хітом былі шапкі з вялікімі брылямі, называлі іх бейсбалёўкамі — ззаду была гумачка і на кожную галаву пасавала. Палатняныя капелюшы былі з надпісамі. Зараз таго ўжо няма.

Каля 1995 года сталі ўваходзіць кітайскія вырабы і штораз цяжэй было на рынку. Кітайскія былі не толькі шапкі, але і матэрыялы, гадзіннікі, сувеніры. І людзі пачалі купляць таннейшае. Ну і занятак скончыўся. Цяпер шыць не аплачваецца, бо дастаткова пайсці ў „шматэкс" і купіць там шапку за пяць злотаў, якая калісь каштавала пяцьдзясят або і больш.

Па прафесіі шапачніка асталіся ўспаміны і машыны на памятку. Па бацьку меў тры нямецкія машыны фірмы „Зінгер" — на кожны мадэль шапкі іншая машына. Перадаць няма каму, бо ніхто не хоча вучыцца гэтай прафесіі. Але не прадам іх за найбольшыя грошы, хаця сумняваюся, што шапачніцтва адродзіцца. Настала іншая эпоха.

**Размаўляў і фатаграфаваў Міхал МІНЦЭВІЧ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Праваслаўнай школе — 10 гадоў!

Непублічная школа свсв. Кірылы і Мяфодзія, або як кажуць у народзе «праваслаўная школа», існуе дзесяць гадоў. За гэты час яна разраслася ў дваццаць адзін раз і лічыцца адной з лепшых адукацыйных устаноў на Падляшшы. У рэйтынгу, састаўленым па колькасці лаўрэатаў прадметных конкурсаў за 2015/2016 год, НШ свсв. КіМ заняла першае месца ў Падляшскім ваяводстве. У мінулым годзе — другое.

Найбольш лаўрэатаў і фіналістаў па беларускай і рускай мовах, ёсць таксама лаўрэаты па англійскай мове, матэматыцы і інфарматыцы. Гонарам школы з'яўляюцца шматлікія праекты і пазаўрочныя прадметныя і мастацкія гурткі, у тым ліку гурткі танцаў і шахматыстаў.

Цягам гадоў школа прыдбала новы будынак па вуліцы Варыньскага.

— Апошнім часам нам удалося адрамантаваць раздзявальню і абсталяваць многія класныя залы, — кажа дырэктар Лена Лаўнічук. — Гэта для нас вялікі крок у развіцці школы.

Зараз увесь прасторны будынак заняты на патрэбы школы. Мы ўдзячны Аляксандру Сасну і прэзідэнту Тадэвушу Трускаляскаму, якія перадалі для школы будынак на 25 гадоў.

А што было на пачатку?

Сціплыя пачаткі школы мы аднатавалі на старонках «Зоркі». Найперш школа знаходзілася ў будынку ПШ № 34 па вуліцы Пагоднай, 12. Там арандавалі адну залу. У ёй займалася восем першакласнікаў. Ад пачатку тут дзеяліся самавітыя рэчы. Са жменькай дзетак працавала ажно 12 настаўнікаў. Многія з іх прыязджалі на два-тры ўрокі. Школай кіравала тады Анна Смык-Койла. Ад пачатку вяліся ўрокі беларускай і ўкраінскай моў.

Мы наведалі ўрок беларускай мовы, якую тады выкладала настаўніца Тамара Бялькевіч.

Першакласнікі Патрык Місяюк і Дамініка Благушэўская, сёння ліцэісты, расказалі пра свае захапленні і настаўніцу:

*— Настаўніца чытае нам казкі і апавяданні, прыдумвае беларускія гульні, — кажа Дамініка Благушэўская. — А найфайней, калі чытае нам «Мышку Пік-Пік». Дамініка апавядае пра свой любімы апавед, калі Пік-Пік сустракае ў тэлебачанні Мікі Маўса.*

*Дзеці ведаюць беларускія калядкі: «Свецяць свецяць зорачкі», «Учора з вячора». Выступілі нават на вялікім канцэрце ў філармоніі...*

*У класе чатыры дзяўчынкі і і чатырох хлопцаў. Увесь клас ходзіць на заняткі класічнага танца і рытмікі, займаюццаў шахматным гуртку. А Куба Шарамэта і Патрык Місяюк трэніруюць яшчэ каратэ. Амаль усе сябры вывучаюць ігру на нейкім інструменце. Яны паабяцалі нам, што ў іх калісь будзе свой музычны гурт!**

Такі маладзёвы рок-гурт сапраўды ўзнік, а сама Дамініка праславілася як класная салістка, якая спявала на конкурсах БГКТ шэдэўры «Ляпіс Трубяцкога».

Зараз Патрык і Куба іграюць і спяваюць у сямейным гурце «Стэбло». Яны выступаюць на многіх беларускіх фэстах і конкурсах.



Першакласнікі- першапраходцы з настаўніцай Тамарай Бялькевіч.



Лена Лаўнічук: дырэктар школы.



На юбілеі прагучалі беларускія песні, фота http://www.szkolacim.szkolnastrona.pl/

Даволі цікавая гісторыя беларускай мовы. Цягам гадоў яе навучалі многія настаўніцы: Тамара Бялькевіч, Альжбета Рудкоўская, Віялета Нікіцюк-Перкоўская, Юліта Сушч і Іаанна Марко. Па ініцыятыве Іаанны Марко сталі адзначаць Дзень нацыянальных моў. З 2013 года ў школе праводзіцца конкурс «Беларуская дыктоўка». Летась прымалі ў ёй удзел школьнікі і дарослыя: журналісты, дзеячы культуры і дыпламаты. Мерапрыемства набыло агульнапольскі ранг.

Вучні масава прымаюць удзел ва ўсіх беларускіх конкурсах і праектах, у тым ліку конкурсах ладжаных «Нівай»: у Сустрэчах «Зоркі» і літаратурным конкурсе «Дэбют».

У школе, калі ідзе пра горад Беласток, самая вялікая колькасць падпісчыкаў на «Ніву».

— Усё гэта хочам прадаўжаць, — кажа дырэктар Лена Лаўнічук. — Для нас вельмі каштоўная падтрымка беларускіх арганізацый. А рэдакцыі «Нівы» вялікае дзякуй за Сустрэчы «Зоркі». Для нашых дзяцей гэта самавітая ўзнагарода.

З верасня ў школе працуе новая настаўніца беларускай мовы. Іаанну Марко, якая зараз у мацярынскім водпуску, заступіла Людміла Сегень.

А вучыць ёсць каго — у пачатковай школе і гімназіі разам 175 вучняў. З гэтага ажно 160 запісалася на ўрокі беларускай мовы.

Калі ўлічыць энтузіязм, які праяўляюць яны для «Беларускай дыктоўкі», можна гаварыць пра нейкі феномен. У праваслаўнай школе, як нідзе, дзеці проста гараць каб прыняць удзел у беларускай дыктоўцы. Сваім энтузіязмам заразілі ўжо Нарву і беластоцкую Гімназію № 7, якія прыступілі да дыктоўкі. Уражваюць таксама творчыя проблескі.

Вучні праваслаўнай школы свае таленты і здольнасці праяўляюць на старонках «Зоркі». Немагчыма злічыць усіх дописаў і вершаў. Іх сапраўды было процьма! Сярод іх вылучаліся такія аўтары, як Веранікa Кардзюкевіч, Клаўдзія Галінская, Габрыся Торка, Міхась Сахарчук, Алік Семянюк, Оля Салавянюк, Іванка Карсунскі, Юстына Бакуменка, Дамініка Благушэўская, Агата Усціновіч, Агнешка Зданоўская, Зузя Кардзюкевіч, Матэвуш Бурачэўскі.

Пра поспех і прэстыж школы заяўляе таксама рэкордная колькасць першакласнікаў.

З верасня працуюць два першыя класы ў пачатковай школе. У іх запісалася 24 вучні. Папоўніўся новы, сёмы клас на сем асоб, зараз тут 20 навучэнцаў.

— Як гэта ўсё вам удаецца? — пытаю спадарыню Лену Лаўнічук, якая ўжо восем гадоў кіруе школай.

— Гэта заслуга цэлага асяроддзя, — чую ў адказ.

І дадае, як важная для іх падтрымка куратары, арганізацый, Культурнага цэнтра Беларусі і валанцёраў. Сваю працу лічыць вялікім гонарам, а вучняў па-мацярынску называе «сонейкамі» і «сардэнькамі». У школе сямейная атмасфера, усе ўсіх ведаюць. Гэта дазваляе стрымаць атмасферу бяспечнасці і ладу. У модзе тут сяброўства і ветлівасць.

— Аднак мы нічога не дасягнулі б без падтрымкі Царквы і ўладыкі Якуба, які ад пачатку ўзяў над нашай школай духоўную апеку, — дадае Лена Лаўнічук.

Юбілей надта ўрачыста адзначылі 5 верасня ў Драматычным тэатры. Свята ўпрыгожыў, між іншым, хор з беларускімі песнямі пад кірункам Алы Каменскай.

Мы таксама, дарагія сябры, жадаем вам *Многая-многая лета!*

**Ганна КАНДРАЦЮК**

* *Урок беларускай мовы ў праваслаўнай школе*, «Ніва» № 7 ад 2008 года.

*расквецім гісторыю*
# Беларусі

## АДРАДЖЭННЕ

Напрыканцы XIX стагоддзя і напачатку XX пачынаецца магутнае адраджэнне беларускай культуры. Насуперак цэнзуры, якая не дазваляе пісаць па-беларуску, паўстаюць першыя газеты «Наша Ніва», «Наша доля», з'яўляюцца літаратары, вядуцца доследы па гісторыі і геаграфіі Беларусі. Дзякуючы творам Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Алаізы Пашкевіч (Цёткі), Максіма Гарэцкага, Наталлі Арсенневай ды іншых, беларуская літаратура набывае шырокі абсяг і выходзіць на еўрапейскі ўзровень. Наша Падляшша прыгожа ўпісваецца ў беларускую адраджэнскую плынь.У літаратуры прыкметны голас М. Арла (Сцяпана Пятэльскага), а на музычнай сцэне ўзыходзіць зорка Яна Тарасевіча, кампазітара з Шындзелі, што ля Саколкі.

(гак)







**Васіль Вітка**

* * *

Як птушкі,
Склалі крылы
Паходныя палаткі,
І нас паклікаў верасень
У школу на заняткі.
Бывайце зноў да лета,
Азёры і бары.
Дзень добры,
Школа родная,
Настаўнікі,
Сябры!

**Адам Русак**

### Мой сябар

З ім я ў працы, адпачынку,
На уроку, перапынку.
З ім я ў полі, з ім я ў школе,
З ім не сумна мне ніколі.
З ім вандрую я па свеце,
З ім лятаю у ракеце.
Чаго сам не адгадаю —
У яго я запытаю.
Ён усё на свеце знае,
Мне ва ўсім дапамагае.
З ім я гутарку вяду,
З ім нідзе не прападу.
— Хто ж ён гэтакі, скажы?
Нам яго ты пакажы.
— Нездагадлівы ты, Мішка...
Сябар мой, вось бачыш,
— кніжка.

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Даверлівы воўк

Няня супакойвала плаксу:
— Калі не перастанеш, аддам цябе ваўку!
А воўк гэта пачуў ды з надзеяй, што здзейсніцца пагроза, чакаў да вечара, каб ухапіць дзіцятка.
Настаў вечар, дзіця заснула, а воўк, скуліўшы хрыбет, без здабычы вярнуўся дамоў.
На парозе прывітала яго галодная ваўчыца, а ён, на апраўданне, сказаў:
— Прабач, мілая, я прамахнуўся! Я паверыў жанчыне!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## Польска-беларуская крыжаванка № 38-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 34-17:**

Суп, скарб, голуб, плыт, гарох, міг, маг, Лі, Нёман, ар, гітара. Стог, Амур, прас, глог, слых, кот, лёт, каб, міма, рулі, ар, абсяг, на.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк, Магда Якубюк, Вікторыя Гаць** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| No / Pępek | | Żagiel | Wiosna | Fakty | | No | | Anna |
| | | | Wanna / Sukces | | | | | |
| Wzrost | Opiekun / Zwyczaj | | | | | | | |
| | | | | | | As | | |
| Usta | | | | | | | | Tort |
| | | | | | Wiąz | | Moje | |
| Wyspa | | Uch! | | No | | Może | | |
| Kuchnia | | | | | | Ar / Wzlot | | |
| | | | Zapach | | | | | |

**Гайнаўскія мастакі Віктар Кабац і Уладзімір Мусько рашыліся аднавіць разьбярскія пленэры ў Гайнаўцы, якія ладзіліся ў горадзе ў шасцідзясятых і сямідзясятых гадах мінулага стагоддзя. У XV Міжнародным разьбярскім пленэры ў Гайнаўцы прынялі ўдзел скульптары з Гайнаўкі, Беластока, Любліна і Брэста.**

# Разьбярскі пленэр вярнуўся ў Гайнаўку

Удзельнікаў звыш двухтыднёвага пленэру спатыкаю пры яго канцы, на прыродзе. За будынкам Гайнаўскага дома культуры, сярод старых тоўстых дрэў, ляжаць яшчэ бярозавыя і ліпавыя калоды, але большасць прывезенай на пленэр драўніны ўжо пераўтворана ў прыгожую разьбу. Скульптары канчаюць свае апошнія працы ў драўніне. Большасць разьбярыла ў дубіне, з якой складана працаваць, але дубовая скульптура вельмі трывалая і прэзентуецца шыкарна як на сонцы, так і ў цяні. Тэма для разьбы была адвольнай, але большасць удзельнікаў скарыстала матывы найпрыгажэйшага лесу Еўропы — Белавежскай пушчы, з якой Гайнаўка ад свайго ўзнікнення знаходзіцца ў сімбіёзе. Затрымліваюся каля месца для адпачынку, прыкрытага дахам і на першым плане бачу дзве вялікія скульптуры, выкананыя ў дубе мастаком з Брэста **Аляксандрам Лазеркам** — пушчанскага аленя і Божую Маці з маленькім Хрыстом на руках. Далей стаіць і ляжыць разьба, якую яшчэ апрацоўваюць скульптары. Першапачаткова скульптары працуюць з дапамогай механічных піл, а пасля апрацоўваюць свае працы без прымянення механічнай тэхнікі.

— Найбольш плённым скульптарам аказаўся Сашка з Брэста, які працаваў як мурашка. Закончыў ён вельмі прыгожыя скульптуры і вярнуўся ўжо ў Брэст. Працаваць у дубе складана, але Сашку складана было адарваць ад працы. Яго здольнасці бачны на скульптурах. Я, як камісар пленэру, займаюся ўсімі арганізацыйнымі пытаннямі і ў мяне менш часу на працу ў драўніне, але зараз падганяю работу. Праз тры дні адбудзецца адкрыццё пленэрнай выставы і трэба сарганізаваць транспарт для перавозу дубовай разьбы на новае месца, дзе скульптура будзе стаяць некалькі тыдняў. Пасля разьбу ў драўніне трэба будзе схаваць у закрытае месца, каб не марнела, — заявіў камісар пленэру **Уладзімір Мусько**. Віктар Кабац апальваў бярозавую скульптуру на невялічкім вогнішчы.

— Гайнаўка, побач Закапанага, у сямідзесятых гадах была другім цэнтрам разьбы па дрэве ў Польшчы. Пачынаючы ад паловы шасцідзесятых гадоў у Гайнаўцы адбылося 14 разьбярскіх пленэраў. Яны расславілі тады наш горад на ўсю Польшчу амаль так, як цяпер гэта робіць Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі. Разьбярскі свет прыязджаў у Гайнаўку, каб тут працаваць у драўніне. У гайнаўскіх пленэрах прымалі ўдзел вядомыя скульптары з Польшчы, Аўстраліі, ЗША, Германіі, Літвы, Чэхіі, а скульптуры з гайнаўскіх пленэраў прэзентаваліся ў Нацыянальным музеі ў Варшаве і на выставах у Кракаве, Любліне і перш за ўсё на выставе ў Мюнхене. З Мюнхена спецыяльна заказалі адну разьбу на нашым пленэры. Пасля доўгага перапынку мы з сябрам Уладзімірам Мусько рашыліся аднавіць пленэры разьбы па дрэве і намерваемся адкрыць галерэю для прэзентавання выкананых на пленэрах скульптур, — сказаў **Віктар Кабац**.

Нагадаў ён, што першы разьбярскі пленэр адбыўся ў Белавежы, дзе ў 1963 годзе каля будынка Прыродазнаўчага музея спаткаліся на пленэры мастакі, якія займаліся жывапісам і выконвалі прасторавыя інсталяцыі з выкарыстаннем драўніны.

— Гэта прафесар Фалінскі з Польскай акадэміі навук запрапанаваў мастакам зрабіць скульптуры ў драўніне з паваленых ветрам у парку бяроз. Ад гэтага пачаліся нашы пленэры. Чарговая скульптура выконвалася ў драўніне ўжо ў Гайнаўцы, на гэтым месцы ў гарадскім парку, дзе пасля знаходзіўся фантан. Пазней пленэры сталі ладзіцца на тэрыторыі Гайнаўскага прадпрыемства дрэваапрацоўчай прамысловасці, якое многа дапамагала ў іх арганізацыі, — гаварыў Віктар Кабац.

— Я здаўна думаў, каб аднавіць разьбярскія пленэры ў Гайнаўцы. І ўрэшце зрабілі мы гэта разам з Віктарам Кабацам. Зараз складана распавесці пра першыя пленэры. Стваральнікамі іх былі, між іншым, мастакі Мікалай Валкавыцкі, родам з Белавежы і Тадэвуш Болаз. Арганізаваць пленэры дапамагаў гайнаўскі настаўнік тэхналогіі апрацоўкі драўніны Юліюш Айжаноўскі, марай якога было стварэнне галерэі скульптуры ў Гайнаўцы. Мы з Віктарам хочам здзейсніць яго мару, — сказаў гайнаўскі разьбяр, спецыяліст разьбы па каранях Уладзімір Мусько.

Патранат над разьбярскімі пленэрамі стала трымаць Гайнаўскае прадпрыемства дрэваапрацоўчай прамысловасці, якое таксама дапамагала іх ладзіць. Дырэктар гэтага прадпрыемства спадар Суліма клапаціўся, каб была драўніна для разьбы. Працаўнікі прадпрыемства дапамагалі скульптарам апрацоўваць драўніну з прымяненнем заводскай тэхнікі. Калі дырэктарам дрэваапрацоўчага прадпрыемства стаў Аляксей Зін, з яго вялікай дапамогай гайнаўскія разьбярскія пленэры разгарнулі дзейнасць і пераўтварыліся ў міжнароднае мерапрыемства.

— Я быў камісарам міжнароднага разьбярскага пленэру ў 1976 годзе. Тады было відаць значэнне мастацкага мерапрыемства, якое рабіла Гайнаўку вядомай не толькі ў краіне, але і ў замежжы. Пленэр чатырнаццаты раз адбыўся ў 1979 годзе. Пазней не было спрыяльных умоў для гэтага — у 1980 годзе ў краіне пачаліся забастоўкі, у снежні 1981 года ў час ваеннага становішча былі распушчаны ўсе мастацкія арганізацыі. Пасля пачалося іншае фінансаванне мастацкіх мерапрыемстваў і пленэр не аднавіў дзейнасці, — успамінаў Віктар Кабац. — Мы цяпер працягваем арганізацыю пленэру і шукаем месца для прэзентацыі выкананых скульптур. Прапануем, каб у былым офісным будынку Гайнаўскага прадпрыемства дрэваапрацоўчай прамысловасці, які знаходзіцца за сталовай гэтага прадпрыемства, арганізаваць Падляшскую галерэю разьбы па дрэве. Спадзяемся на падтрымку гарадскіх улад і Маршалкоўскай управы ў Беластоку, паколькі галерэя прэзентавала б працы скульптараў Падляшскага ваяводства. Пасля прэзентацыі на пляцоўцы каля Гайнаўскага дома культуры разьба магла б экспанавацца на прасторных калідорах нядаўна ўзведзенага шыкарнага будынка Політэхнічнага інстытута.

У пятнаццатым пленэры разьбы па дрэве прынялі ўдзел скульптары з Гайнаўкі, Беластока, Любліна і Брэста. Для скульптараў падрыхтаваны былі драўляныя калоды з дубу, ліпы і бярозы. З 7 па 24 жніўня разьбярылі яны на пляцоўцы каля будынка Гайнаўскага дома культуры.

— Я выконваю скульптуру ў бярозе. Называецца яна «Развітанне з пушчай», а канкрэтна гэта развітанне дрэва з пушчай. Хаця калодка бярозы, у якой я разьбярыў, была прывезена з-па-за пушчы, то гэтая скульптура з'яўляецца сімвалам дрэў, якія зараз масава высякаюць у Белавежскай пушчы і вывозяць. Кожнае вывезенае па-за пушчу дрэва развітаецца з ёй. Другой маёй працы даў я загаловак «Зямля». Гэта прасторавая інсталяцыя, на якой прымацаваў я яшчэ камень. На ёй відаць, як знішчана наша Зямля. Падчас выконвання сваіх работ я асцярожна, на малым агні, апальваю драўніну і падчас такога працэсу яна непаўторна і непрадбачліва апрацоўваецца, а пры гэтым я яшчэ карыстаюся колерамі, якія выступаюць у прыродзе, — патлумачыў мастак Віктар Кабац.



Віктар Кабац



Данель Ліпіян-Канюк з Любліна



Камісар пленэру Уладзімір Мусько

Падчас пленэру аднаўлялася таксама выява Марыі Кюры-Складоўскай, выкананая ў дубе падчас аднаго з пленэраў, якая стаяла каля I Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Марыі Кюры-Складоўскай у Гайнаўцы. Пасля абнаўлення будзе яна назад пастаўлена каля будынка ліцэя. Усе скульптуры выконваліся падчас пленэру з калодак дубу і бярозы. Разьбяры не пакарысталіся прывезенай ліпай, у якой найлягчэй разьбярыць і якой ахвотна карыстаюцца многія народныя скульптары Гайнаўшчыны.

— Я рашыўся выразаць постаць святога Францішка, патрона эколагаў і астатніх любіцеляў прыроды, які ў сваім жыцці дбаў пра ўсё, што на прыродзе яго акружала і захапляўся прыгожасцю навакольнага асяроддзя, — заявіў камісар пленэру Уладзімір Мусько.

— Я апошнім часам выконваю разьбу з жанчынамі і дзве мае скульптуры з жаночымі постацямі паўстаюць тут на пленэры. Разьба ў дубе больш складаная, патрабуе больш часу, але для мяне важны канчатковы рэзультат маёй працы, — сказаў **Станіслаў Асташэўскі**, разьбяр з Беластока і пачаў механічнай пілой далей апрацоўваць дубіну. Калі ў далёкім мінулым скульптары працавалі без прымянення механічнай тэхнікі, разьба ў дубіне была больш складанай і доўгай.

— Я цяпер выконваю рыбу. Мая галоўная скульптура паўстае таксама з выкарыстаннем камення і паказвае прыгожасць Белавежскай пушчы, каля якой мы тут займаемся, — сказаў скульптар **Данель Ліпіян-Канюк** з Любліна, які таксама працаваў з механічнай пілой у руках.

— Пленэр мы ладзім пры фінансавай дапамозе бургамістра Гайнаўкі. Выкарыстоўваем мы яе на аплату начлегаў, харчавання і куплю драўніны для разьбы. Бургамістр Гайнаўкі і Гайнаўскі дом культуры, на якога пляцоўцы мы цяпер працуем, з'яўляюцца суарганізатарамі пленэру, але за ўсімі справамі ходзім мы з Віктарам Кабацам. Праз некалькі тыдняў будзе выдадзены альбом пра гісторыю Міжнароднага разьбярскага пленэру па дрэве ў Гайнаўцы. Спадзяемся, што ў наступных гадах прыме ў ім удзел больш разьбяроў. Хочам, каб наш пленэр стаў штогадовай міжнароднай імпрэзай, — сказаў Уладзімір Мусько.

24 жніўня плён XV Міжнароднага разьбярскага пленэру ў Гайнаўцы быў запрэзентаваны на пленэрнай выставе каля будынка ГДК.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



# Не толькі пра асіміляцыю

У апошніх днях жніўня ў Супрасльскай акадэміі адбылася міжнародная канферэнцыя на тэму „Царква і асіміляцыя — свой і чужы". А больш агульна — асноўным стрыжнем канферэнцыі мела быць менавіта з'ява асіміляцыі.

Асіміляцыя мае некалькі значэнняў, а тэрмін выводзіцца з лацінскага слова *similis* — падобны. У грамадскім сэнсе слова асіміляцыя абазначае з'яву прымання прымет суседняй грамадскай групы; кранае гэта так нацыянальныя групы, як і канфесійныя. І адбываецца яна ў прасторы міжсуседскіх адносін, а дакладней — на памежжы. А ў нас жа шырокае памежжа, памежжа між глабальнымі Усходам і Захадам. Гэта можа асацыявацца нават з тэктанічным межаваннем участкаў зямной кары, дзе дынаміка гэтых велізарных участкаў выклікае рознай магутнасці землятрусы. Гэтак жа і ў грамадскім сутыкненні цывілізацыйных участкаў...

Асіміляцыя можа адбывацца мірным шляхам, а можа быць вынікам рознага па напружанню насілля. У ходзе канферэнцыі разглядаліся розныя асіміляцыйныя працэсы, якія адбываліся цягам стагоддзяў у нашай грамадскай прасторы.

Важнай падзеяй, якая на стагоддзі вызначыла ход асіміляцыйных працэсаў у Еўропе, стаў Трыдэнцкі сабор 1545-1563 гадоў. Яго мэтай было супрацьдзеянне рэфармацыі, супрацьдзеянне паслабленню папскай улады, якое пазней стала дзеяннем з мэтай мацавання папскай улады. Варта заўважыць, што неўзабаве пасля таго сабора была заключана Берасцейская унія 1596 года, якая вызначыла ход шматлікіх, не толькі чыста канфесійных, падзей у нашай навакольнай прасторы. А варта ж яшчэ вярнуцца некалькі стагоддзяў назад, бо тады на тэрыторыі Рэчы Паспалітай католікі былі ў меншасці, а ўсходнюю палітыку праводзілі адно чыны Вялікага Княства Літоўскага; сёння гэта гучыць неверагодна...

Насільная асіміляцыя набрала, аднак, асаблівай сілы ў ХХ стагоддзі. Асабліва на тэрыторыі Заходняй Галіччыны. І гэта не ў ваенны час таго ліхалетняга стагоддзя, але ў час, здавалася б, мірны. За той перыяд са згаданай тэрыторыі, як паведаміў у сваім дакладзе Ежы Усціновіч, сцэзла 1750 культавых аб'ектаў усходняга абраду. У час абедзвюх сусветных войнаў іх лік паменшаў на нейкі дзясятак у час Першай, і на такі ж лік у час Другой сусветных войнаў. Затое сапраўдны канфесійны землятрус тварыўся ў „мірны" час, калі дзяржаўныя структуры не былі заняты змаганнем з апранутым у мундзіры праціўнікам. Адбываліся таксама, не толькі там, храмавыя канверсіі. Усяляк з імі бывала. Бывала і так, што ранейшы сакральны змест устараняўся, а бывала і так, што захоўваўся — лёс ранейшага сакрум залежаў ад асабістай культуры новых гаспадароў. Дадаць яшчэ трэба, што пасля Другой сусветнай вайны, пасля ўсіх пасляваенных дэмаграфічных землятрусаў, канверсіі ахапілі таксама тыя храмы, якія раней служылі не толькі ўсходняму абраду, але і тыя, што служылі заходняму абраду — на заходніх і паўночных тэрыторыях пасляваеннай Польшчы.

Слоў крыху больш варта прысвяціць супрацьлеглай частцы польскай дзяржавы. Прамаскоўскі ўрад Польскага камітэта нацыянальнага вызвалення гарачыўся за тое, каб адтуль выселіць усё насельніцтва ўсходняга абраду. Дапускаў ён пакіданне ў межах Польшчы толькі тых грэка-католікаў і праваслаўных, якія канвертуюцца ў каталіцызм, ды і то дазваляючы ім перасяліцца на паслянямецкія землі. Ужо ў 1944 годзе ў выніку дамовы з савецкім урадам з паўднёва-ўсходніх тэрыторый Польшчы на савецкую Украіну было выселена амаль паўмільёна чалавек. Зачысткай апошніх занялася акцыя „Вісла" ў 1947 годзе... У пасляваенныя гады і з нашай Беласточчыны выехала ў Савецкі Саюз пад сорак тысяч народу. Некаторыя з гэтых перасяленцаў, не ўжыўшыся ў Беларусі, перасяліліся ў былую Усходнюю Прусію...

Асіміляцыя, якая завітала на нашы землі, асабліва пасля канца Ягелонскай дынастыі, займела не толькі канфесійны характар. На тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага, дзе раней дзяржаўнай мовай была мова вялікіх тамашніх князёў — старабеларуская, пачала завітваць польская мова, а таксама латынь. Іх прыносілі не толькі духоўныя чыны з Польшчы, ёю сталі карыстацца і чыны ўсходняга абраду — у палеміках з заходнікамі. Асветныя ўстановы таго часу таксама карысталіся мовамі, да якіх трэба было прывучвацца.



Тут асаблівую ролю трэба адвесці ордэну базыльянаў. Да заключэння Берасцейскай уніі яго не было на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. На тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага ён быў афіцыйна прызваны ў 1617 годзе, а арганізавалі яго кармеліты і езуіты. Спачатку ўзначаліў яго Вельямін Руцкі, а пасля ім кіравалі манахі каталіцкага вываду. Ордэн гэты вельмі тады рупіўся пра асіміляцыю уніятаў у каталіцтва, а звянчэннем гэтай рупнасці быў Замойскі сабор 1720 года.

Варта заглянуць і на нашы тутэйшыя землі ў эпоху не надта даўняй даўніны, у пасляваенны перыяд. Тут таксама чулася дыханне асіміляцыйнага ціску. Адным з прыёмаў супрацьстаяння асіміляцыі, асабліва канфесійнай, бо канфесія стانавілася асноўным бар'ерам на шляху асіміляцыі, была мімікрыя. Праваслаўнае вясковае насельніцтва, якое апынулася ў Беластоку, у тым жа Беластоку быццам не заўважала царквы, затое калі наведвала свае родныя мясціны, тады ўжо паводзіла сябе так, быццам у горадзе і не бывала. У Ваяводскім камітэце партыі працавалі „атэісты" і праваслаўныя, і католікі. Паводле Анджэя Садоўскага, на сённяшні дзень больш за палову праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны пражывае ў гарадах; у самім Беластоку каля шасцідзесяці тысяч. Асноўнай мовай зносін у публічнай і прыватнай прасторы, так у гарадах, як і мястэчках, стала польская мова. У пасляваенны час асноўным крытэрыем грамадскай ідэнтыфікацыі было веравызнанне. Але не веравызнанне ў шырокім сусветным разуменні, але ў тутэйшым, з тутэйшымі абрадамі і звычаямі. Найбольш трывалай з'яўляецца прыватная айчына, родная мясцовасць, месца нараджэння. А Польшча — гэта найбліжэйшы крыху „іншы свет", крыху „свойскі"...

Альжбета Чыквін павяла слухачоў з тутэйшага засценка на шырокія сусветныя прасторы, у навуковыя дасягненні сусветнай сацыялогіі і псіхалогіі, прыводзячы да ведама доследы тых замежных вучоных, якія заглыбіліся ў глыбіню чалавечай псіхікі дзеля вышукоўвання загнежджаных там прычын асіміляцыі. А галоўнай прычынай далучэння да суседняга свету з'яўляецца — паводле адной з тэорый — трывога чалавека за вечнае выжыванне, трывога перад смерцю. Менавіта тая грамадская адзінка перад абліччам смерці шукае прадаўжэння свайго жыцця ў нейкай мацнейшай супольнасці, быццам тая супольнасць панясе хаця б духоўнасць тае адзінкі ў несмяротную будучыню. Таму вектар асіміляцыйных працэсаў скіраваны ў мацнейшы бок, у бок тае грамадскасці, якая мацнейшая, больш перспектыўная для выжывання. Гэта не толькі вектар асабістага выбару, гэта таксама вектар асіміляцыйнага ціску, накшталт таго, які вельмі адчувальны ў Польшчы. Яго мэтай узмацненне, узбуйненне ўласнай грамадскай абшчыны, якая б панесла ў будучыню тую грамадскую несмяротнасць. А з гэтага бярэцца і ксенафобія, пагроза, што „іншы" можа паграждаць гэтаму вектару, можа пазбавіць яго моцы, пазбавіць уяўнай несмяротнасці, пазбавіць сваю бактэрыйную флору шляхетнасці. Сваіх можна ўзяць пад кантроль, а з чужымі справа няпэўная. Чужы становіцца сінонімам патэнцыйнага зла. Страх перад чужым спараджае агрэсію, так як было гэта з замахам на вежы Сусветнага цэнтра гандлю, пасля якога лёгка было распаліць вайну ў Іраку, дзе загінула каля шасцісот тысяч насельніцтва, два мільёны падалося ў замежнае бежанства, а чатыры мільёны мігравала ў межах краіны; загінула таксама 3,7 тысяч амерыканцаў, а на вайну расходавана Штатамі звыш чатырохсот мільярдаў долараў...

Прыліпанне да мацнейшага тлумачаць таксама некаторыя індывідуальныя, як і калектыўныя паводзіны. Вось на Беласточчыне набірае моцы польскасць, як нешта элітнае, да якой далучаюцца некаторыя тутэйшыя „няпольскія" нашчадкі. І ёсць для гэтага агульнае ксенафобнае лепішча — антысемітызм. У калектыўным вымярэнні таксама бачная падобная з'ява: у дзяржаўным маштабе прыліпанне Польшчы да Амерыкі ці Беларусі да Расіі.

Не ўдалося мне быць на ўсіх дакладах; выбіраў я найбольш з майго пункту гледжання перспектыўныя. А спектр канферэнцыі быў багаты: было шмат гісторыі з эпохі Вялікага Княства Літоўскага, было шмат пра пакуты насельніцтва паўднёва-ўсходняй Польшчы, было пра траўмы сербаў у час распаду Югаславіі, было пра змаганне даўніх ізраільцян за захаванне сваёй тоеснасці — тое няспыннае хістанне то пахіляючыся перад Богам, то ад Бога адхіляючыся. І пра дынаміку ўнутранага аснашчэння супрасльскай Благавешчанскай царквы, а нават пра падабенства некаторых яе архітэктурных элементаў з замкам Сфорцаў у Мілане. І пра мастацтва Ежы Навасельскага, які запрапанаваў адной з тутэйшых цэркваў сваё мастацкае аздабленне, але з прычыны наватарства формы, у якой прапанавалася больш духоўнасці, а менш цялеснасці, прыхаджане адмовіліся ад прапановы, хаця змест распіскі храма быў поўнасцю згодны з канонамі; у прыхаджан спрацавала прывычка да „свойскасці".

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Засталіся адно ўспаміны (20)

З Палічнай па маршруце пераязджалі мы ў Дабрываду. Вёска — не малая. Была тут чатырохкласная школа, святліца, пажарная каманда, якой паветка з супрацьпажарнымі прыладамі межавала са святліцай. За рачулкай знаходзілася царкоўка. Тут адзначаліся прыхадскія фэсты: Юр'е — 6 мая, «Спленне» — 28 жніўня і «Пяценка» — 28 кастрычніка. Вёска два разы пацярпела ад пажару. Адбудавалася. Найгоршай заганай быў брак электратоку. Памятаю, што ў Дабрывадзе першапачаткова настаўнічаў Веслаў Дземяновіч з Чаромхі-Станцыі. На працу дабіраўся летам на зялёным матацыкле «вуэфэм». Нежанатым памёр. Яго абавязкі пераняла Галена Качко, якая таксама выходзіла з Чаромхі. Кінасеансы — як ранішнікі для школьнікаў, так і вячэрнія сеансы для дарослых — арганізавалі мы ў святліцы. Гледачоў няшмат прыходзіла, асабліва ў зімовы час. Зала не была ацепленай. Праўда, стаяла тут кафельная печка, але праз амаль чатыры гадзіны на двух сеансах у кажуху і лямцавых ботах людзі замярзалі. Па супрацьпажарных правілах у неабагрэтай зале забаранялася арганізаваць сеансы, але па просьбе жыхароў мы не змаглі людзям адмовіць пакарыстацца кіно. Праўдай было і гэта, што з Дабрывады выходзіў мой бацька. У мяне было тут шмат суродзічаў. Асаблівыя кантакты былі ў мяне з дзядзькам Раманам Сідаруком, які прыслужваў у царкве старастам, ды другім братам бацькі Мікалаем Рачкевічам. У яго была жонка Ніна, мая цётка, ды трое дзетак: Лёнік, Міхась ды Ірэна. Самы старэйшы Лёнік закончыў Інстытут у Ленінградзе. Ажаніўся са сваёй сяброўкай па школьнай парце. Вярнуўся дамоў. Пасля Ленінградскага інстытута аформіўся на працу ў Варшаве. Цудоўна іграў на гармоніку. У шасцідзясятых гадах Лёнік прывозіў мне грампласцінкі з самымі папулярнымі тады песнямі. Памятаю, як мы заехалі ў Бельск-Падляшскі ў кіно «Зніч» перад сеансам для моладзі. Я тады даў сябру кінамеханіку Юрку Філіпюку грампласцінку гурту «Тэрцэт экзатычны». Глядзельная зала, пачуўшы песню «Памэлё, жэгнай», зварухнулася, ажыла і калыхалася на бакі, узняўшы ўгору рукі. Цудоўнае відовішча, якое па сённяшні дзень вырысоўваецца мне перад вачыма. Ды і зараз часта па інтэрнэце на сайце «You Tube» люблю паслухаць чароўную мелодыю для закаханых. Кіношнікі ў Дабрывадзе карысталіся вялікай пашанай. Я гасціваў заўжды ў дзядзькі Рамана і Мікалая Рачкевіча, які з цёткай Нінай былі пастаяннымі гледачамі кіно. Шафёра і механіка запрашаў на абед бацька лесніка Жоржыка Сцепанюка. Сям'я Сцепанюкоў, як і Рачкевічы, карысталася асаблівай прывілеяй. З Дабрывадай звязаны дзве важныя падзеі, якія заважылі на маёй працы ў Ваяводскім праўленні кіно. Але аб гэтым у чарговай частцы.

(працяг будзе)

Лёнік Рачкевіч

Уладзімір СІДАРУК

## Прыбаўка да пенсіі

З днём 31 жніўня г.г. увайшоў у сілу закон аб пажыццёвай прыбаўцы да пенсіі для антыкамуністычных дзеячаў, таксама для асоб рэпрэсаваных па палітычных прычынах. Штомесячная прыбаўка будзе складаць 402 злотых. Дагэтуль законам ад 2015 года пакарысталася адно троста дзеячаў «Салідарнасці». Прыбаўку атрымлівалі асобы, якіх прыбытак не перавышаў 120% самай нізкай пенсіі. У асаблівых выпадках шэф установы па справах ветэранаў і рэпрэсаваных прызначаў спецыяльную грашовую або матэрыяльную дапамогу патрабуючым, а таксама на закупку рэабілітацыйнага абсталявання, інваліднай каляскі або прыстасавання кватэры для асоб з інваліднасцю. Прыбаўку могуць атрымаць асобы, якія адпавядаюць правілам закону і прад'явяць пасведчанне Інстытута нацыянальнай памяці, што не былі камуністычнымі дзеячамі. Затым трэба падаць заяву ва Управу па справах ветэранаў з раней атрыманай даведкай ІНП, а таксама даказаць сваю дзейнасць. Хто не распараджаецца доказамі, што з'яўляўся антыкамуністычным дзеячам, або не ставіўся перад люстрацыйным судом і не мае статусу пакрыўджанага, тады павінен прад'явіць заяву ў ІПН у справе ўкамплектавання і прад'яўлення доказных матэрыялаў. Прадбачваецца, што за пажыццёвай прыбаўкай да пенсіі можа пахадайнічаць шэсцьдзясят тысяч салідарніцкіх дзеячаў.

(УС)



Адной з найвялікшых праблем сучаснай Беларусі з'яўляецца праблема свабоды мірных сходаў. Улады, нягледзячы на свае абавязкі, узятыя перад усім светам, гарантаваць людзям магчымасць рэалізацыі іх права свабодна збірацца і выказваць, напрыклад, мірны пратэст, робяць усё, каб людзі не наважваліся гэтага рабіць. Дастаткова згадаць, у прыватнасці, узаконены абавязак людзей, калі яны хочуць правесці масавую акцыю, аплаціць так званыя „паслугі" міліцыі, медыкаў і камунальнікаў. То-бок, каб рэалізаваць сваё права, запісанае ў канстытуцыі краіны, яе грамадзяне павінны плаціць грошы. Калі ж грошай у іх няма, але яны выйшлі на вуліцу, каб засведчыць сваю пазіцыю па тым ці іншым пытанні, то будуць пакараныя за несанкцыянаваную масавую акцыю. Хутчэй за ўсё гэта будзе вялікі штраф альбо нават зняволенне на некалькі сутак.

Разам з тым прагу людзей да галоснага выказвання свайго меркавання ўлады пакуль не ўстане знішчыць. Найбольш актыўныя з іх спрабуюць змяніць сітуацыю праз змяненне адпаведных законаў. Таму ўзнікаюць разнастайныя ініцыятывы, якія ставяць на мэту аб'яднаць такіх жадаючых і павялічыць іх колькасць. Пра адну з такіх ініцыятыў распавядаецца на сайце „Сход", які месціцца па адрасе **www.sxod.by**.

Дадзены сайт стварылі прадстаўнікі валанцёрскай службы зачыненага беларускімі ўладамі праваабарончага цэнтра „Вясна". „Нас хвалюе гэтая праблема, паколькі мы падзяляем каштоўнасці правоў чалавека і лічым, што нацыянальныя законы не павінны беспадстаўна абмяжоўваць правы грамадзян на мірныя сходы. Нам важна, каб у Беларусі кожны мог рэалізоўваць права на свабоду мірных сходаў, у тым ліку без адвольных пераследаў за гэта", — сцвярджаюць актывісты на старонцы „Пра нас". Яны ўпэўненыя, свабода мірных сходаў з'яўляецца адной з форм прамой дэмакратыі. „Яна садзейнічае развіццю дыялогу як унутры грамадзянскай супольнасці, так і паміж грамадзянскай супольнасцю, палітычнымі лідарамі і ўрадам. Акрамя гэтага, свабода мірных сходаў мае асаблівае значэнне ў адносінах да магчымасці выказвання меркаванняў у дэмакратычным грамадстве", — гаворыцца на дадзенай старонцы і адзначаецца, што ўрад павінен выконваць узятыя на дзяржаву міжнародныя абавязкі ў сферы правоў чалавека.

Сайт хоць і мае дзве моўныя версіі — беларускую і рускую, але ў беларускай мностве тэкстаў па-руску. Чаму так адбываецца, валанцёрская служба „Вясны" не паведамляе.

Уласна сайт зроблены даволі проста. Зверху выяўлення месцяцца нешматлікія выйсці на рубрыкі. Сярод іх — „Як правесці масавае мерапрыемства ў Беларусі", „Чаму сітуацыю трэба змяняць", „Што я магу зрабіць?". Назвы рубрык гавораць самі за сябе і сведчаць аб тым, што ўладальнікі сайта, па ўсім відаць, сур'ёзна ўзяліся за вырашэнне праблемы. Яны не толькі распавядаюць наведвальнікам сайта пра яе, але і прапануюць азнаёміцца з адпаведнымі дакументамі па тэме. Сярод іх як міжнародныя дамовы і пагадненні, так і беларускія заканадаўчыя акты. Усе дакументы знаходзяцца ў рубрыцы „Бібліятэка".

У правым верхнім вугле цэлага выяўлення знаходзіцца ўзор заявы на правядзенне масавай акцыі. Яе змест на рускай мове.

Аляксандр ЯКІМЮК

# Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара

### Даследчык біяграфій класікаў

## 80 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Содаля

Беларускі журналіст, краязнавец, літаратуразнавец Уладзімір Содаль нарадзіўся 13 верасня 1937 года ў вёсцы Мормаль Жлобінскага раёна (Гомельская вобласць). Яго продкі мелі ўнікальны паравы млын, а потым былі ў высылцы. З дзяцінства меў інваліднасць па зроку, з-за выпадковага выбуху страціў вока. У 1961 годзе ажаніўся з Кларай Каратkevіч, меў сына і дачку.

У 1963 годзе Уладзімір Содаль скончыў Мінскі педагагічны інстытут. Працаваў загадчыкам Мормальскага сельскага клуба, электрыкам Мурманскага суднарамонтнага завода, скончыў брыгадныя курсы токараў. Пасля працаваў настаўнікам беларускай мовы і гісторыі Астрашыцкага дзіцячага сухотнага санаторыя, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса „Мастацтва Беларусі", рэдактарам навукова-папулярных і навучальных праграм. У 1967-2000 гадах працаваў на Беларускім тэлебачанні, у тым ліку рэдактарам асветных перадач „Роднае слова" (1979-2000), „У кожнага была свая вайна".

Першыя свае апавяданні Содаль апублікаваў у 1955 годзе ў газеце „Піянер Беларусі". Цягам свайго творчага жыцця даследаваў беларускую літаратуру і культуру XIX-XX ст., жыццёвы і творчы шлях Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Ядвігіна Ш., Зоські Верас ды іншых. Аўтар папулярных выданняў „Людзьмі звацца" (1977), „Пуцявінамі сейбіта" (1982), „Кушлянскі кут", „Сцежкамі Мацея Бурачка" (абедзве 1990), „Жупранская старонка" (1992), „Тут бачу свой край" (1994), „Свіранскія крэскі" (1995), „Карпілаўка" (2001), „Умей слухаць" (2003), „Святы той куточак фальварак Свіраны" (2005), „Анекдоцік у роцік" (2008), „Блаславёныя Кушляны" (2009), „Народныя апавяданні" (2009). Складальнік альбомаў „Францішак Бенядзікт Багушэвіч" (1986), „Вінцэнт Якуб Дунін-Марцінкевіч" (1997). Укладальнік зборнікаў твораў Ф. Багушэвіча „Мая дудка" (1987), „Каму дудка паслушна" (1990), аўтар кнігі „Волат з Мігаўкі" (2007), прысвечанай жыццю і дзейнасці Аляксандра Уласава. Уладзімір Содаль — аўтар сцэнарыяў навучальных дыяфільмаў пра Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, К. Каліноўскага ды іншых. Ніхто не даследаваў так глыбока і дэталёва біяграфію Францішка Багушэвіча як Содаль.

У 1996 года Уладзімір Содаль уваходзіў у Саюз беларускіх пісьменнікаў, быў у Саюзе журналістаў Беларусі. Сябар Рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны, рэдкалегіі газеты „Наша слова" і Таварыства беларускай школы. Удзельнік Устаноўчых з'ездаў БНФ, ТБМ. Адзін з падпісантаў ліста творчай інтэлігенцыі ў ЦК КПСС аб стане беларускай мовы ў рэспубліцы Беларусь. За літаратурна-даследчыцкую працу і змаганне за родную мову Камітэтам Ушанавання ганараваны ордэнам „Гонар Айчыны" і імянным срэбным пярсцёнкам з выявай герба (27.11.1997) і адпаведнымі дыпломамі. Занесены ў кнігу гонару „Рупліўцы тваe, Беларусь".

Некалькі разоў затрымліваўся і нават збіваўся за выяўленне сваіх палітычных поглядаў. Так, 26 красавіка 2007 года, Содаль і ягоная жонка былі збітыя супрацоўнікамі міліцыі пасля „Чарнобыльскага шляху". Актыўна выступаў супраць інкарпарацыі Беларусі ў склад Расіі і супраць расійскай агрэсіі на Украіне.

Памёр Уладзімір Содаль 15 красавіка 2015 года ў Мінску ў Першым клінічным шпіталі ад інфаркту. Пахаваны на могілках у Астрашыцкім гарадку каля магілы маці.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# На рэабілітацыйным аддзяленні (6)

Праходзіў чацвёрты тыдзень нашай з Алёшам шпіталізацыі. Захворванні не ўступалі. Ардынатар у час лекарскага абследавання дзеду Пятру і Генрыку заявіў, што пасля нядзелі будуць выпісаны дадому. Мы заставаліся на пяты тыдзень. Дамоў паехала Данка, а на чарговую нядзелю збіралася Геня з Кляшчэляў. З маіх знаёмых заставалася адно Надзька з Дашоў. Алёша надалей падвозіў мяне на заняткі вазком, паколькі я не мог рухацца пры дапамозе сваіх балючых ног. Мне лазерам абпраменьвалі суставы балючай нагі, а пазваночнік і сцегнавую косць абпраменьвалі кварцавай лямпай, рабілі ручныя масажы. Крыху лягчэй стала, але на станоўчы вынік не збіралася. Боль не саступаў. Варта адзначыць, што ў зале практыкаванняў рэабілітанткі Кася, Дарота і Галенка, а ў суседняй зале Лукаш у час заняткаў звіваліся як уюны. Раілі яны пацыентам як аблягчыць боль, падвозілі на вазку, калі была такая патрэба, адвозілі ў палату пасля заняткаў. Развітаўся з намі Генрык з-пад Браньска. За ім прыехалі жонка з сынам і нявестка. Былі даволі гаваркімі субяседнікамі. Тут жа на яго месца перасяліўся з суседняй палаты кволы, але вельмі рухавы дзядуля. Медсёстры ставіліся да яго з пашанай. Здавалася нам, што гэта „прывілеяваная" асоба. І не памыліліся. Навічка суправаджала дачка, якая з медсёстрамі размаўляла па-сяброўску. Неўзабаве выявілася, што яна працуе лекарам у Беластоку. А перавялі дзядулю ў нашу палату таму, што дачцэ здавалася, што ў нашай палаце будзе ён сябе найлепш адчуваў. Калі я пачуў ад медсястры прозвішча Русіновіч, дык пажадаў з ім пазнаёміцца.

— Адкуль будзеш? ...

— Са Старога Ляўкова, але з Нарвы выходжу.

— А мо ведаеш Янку Русіновіча. Такі невялічкі быў?

— Гэта я сам...

— А ў мяне з шасцідзясятых гадоў твой здымак з Белавежы захаваўся, — заяўляю з усмешкай. — З дзяўчатамі з Навасад і сябрам з Нарвы. У двухтыднёвым семінары Саюза вясковай моладзі разам удзельнічалі. Не памятаеш?...

Так, вось, даражэнькія, пасля пяцідзесяці шасці гадоў сустрэў я сябру перыяду сваёй маладосці. У студзені 1960 года ў семінары ўдзельнічалі старшыні гурткоў Саюза вясковай моладзі Гайнаўскага і Бельскага паветаў. Старастам выбралі тады Краўчыковіча з Браньска, мяне намеснікам. Былі гульні, забавы, вывучэнне прынцыпаў распаўсюджвання культурнай дзейнасці і чытання на вёсцы. Была і „зялёная ноч" на развітанне. Слаўныя былі нашы будні. І мы гэта з Янкам Русіновічам зараз успомнілі. Дочкі наведвалі нашага сукватаранта амаль штодзень. Прыносілі яму неабходныя высакаякасныя, багатыя ў вітаміны прадукты і напіткі. Янка мяне і Алёшу частаваў гасцінцамі. А калі прыйшоў час развітання, дык паплакаліся мы з ім.

З Алёшам Белеўскім былі мы прыняты ў палату № 10 у адзін дзень. Праз пяць тыдняў нашы ложкі суседнічалі. І 26 чэрвеня разам былі выпісаны дадому. З таго часу сталі мы неразлучнымі сябрамі. Але гэта не канец маім аповедам з рэабілітацыйнага аддзялення.

❖ **Уладзімір СІДАРУК**

# Адгаданка

**1.** прозвішча аўтара „Дзяцей капітана Гранта", **2.** набор апаратаў, **3.** егіпецкая рака, **4.** месяц цвіцення ліп, **5.** пакістанская рака, **6.** аддзеленая ад іншых частка спецыяльнага памяшкання, напр. на караблі, **7.** пачцівы паклон з прысяданнем, у якім... вера, **8.** амаль геній, **9.** месяц пасярэдзіне другога квартала, **10.** хвойнае дрэва ў... націску, **11.** мастак, **12.** ільдзіна, **13.** радавы ваеннаслужачы.

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | |
| | | 1 | | | 2 | | 3 | | | 4 | 5 | |
| | | | | | 6 | | 7 | | | | | |
| | | | 8 | | | 9 | | | | 10 | | |
| 11 | | | | 12 | | | | | 13 | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская прагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 35 нумара**

Веер, вейка, дзот, Доўгае, мезенец, пано, Піна, Уна, Чылі.

Рашэнне: **Калі вецер з поўначы вее, то не мей на пагоду надзеі**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

# 17.09 — 23.09

**(22.03. — 20.04.)** Карпатлівая праца. Асцярожнасць і развага, мілыя адносіны з людзьмі. 17-19.09. прыліў грошай, пазбудзешся даўгоў. Пасля 22.09. любоўныя прыгоды. 21-23.09. добра выкарыстай таямнічую інфармацыю. Але 17-19.09. добрых вынікаў могуць не прынесці лішне адважныя рашэнні. Можаш кінуць курыць.

**(21.04. — 21.05.)** Пасля 20.09. час на любоў, імпрэзы і ўсялякія прыемнасці. Можа прыкмеціць цябе хтосьці вельмі атракцыйны, з кім ты можа толькі вітаешся. Вельмі файная любоўная гісторыя, асабліва калі ты народжаны ў красавіку. 17.09. можа наступіць прыліў творчай вены. Твае задумы на працы будуць найлепшыя. 19-21.09. не падпісвай ніякіх дамоў і не прымай прапаноў; затое ўдадуцца судовыя справы. 17-19.09. пераможаш канкурэнцыю. 17-21.09. не выкінь чагосьці патрэбнага. А з 21.09. (да 27.09.) не трап у сярэдзіну канфлікту.

**(22.05. — 22.06.)** 21-23.09. твае таленты і кампетэнцыі акажуцца вельмі каштоўнымі. Але ад 21.09. (да 27.09.) могуць прытрапіцца пад уплывам імпульсу нятрапныя і шкодныя рашэнні — пільнуйся! 17-19.09. памяркоўна разглядай справы і вылаві шанцы, якія прычыняцца да тваёй кар'еры. Пасля 22.09. расквітнеюць узаемныя пачуцці.

**(23.06. — 23.07.)** Фантазія. Умеласць вырашыць кожную праблему. Кругом цябе сімпатычныя людзі.17-19.09. пачні рэалізацыю вялікага праекта. Не бойся яго маштабу! Можаш падзяліць яго рэалізацыю на меншыя этапы. Вера гэта ўжо палова поспеху! Не бойся паразы, падрыхтуй план Б. Правер таксама старыя планы. 21-23.09. вялікая энергія, выкарыстай яе талкова. Удалыя падарожжы, курсы, падпісванне дамоў. Звяртай увагу на ежу.

**(24.07. — 23.08.)** 17.09. можаш наладзіць цікавы кантакт. 17-19.09. твая краса, сімпатыя і харызма перамогуць перашкоды. Шчаслівы час для закаханых. На працы шмат драбязы і папяровай работы, якой не зваліш на іншых, але і ворагаў не будзе. Пасля 20.09. зыдзеш з хмар і моцна станеш на нагах ды шмат што зробіш — з 21 (да 27.09.) шмат што трэба будзе папраўляць. Дыхай ёдам.

**(24.08. — 23.09.)** 17-19.09. вельмі кранальныя і цікавыя весткі. Хаця чыесьці заўвагі ўколюць цябе 19-21.09. Новыя знаёмствы, мілыя сюрпрызы і ажыўленне ў кампанейскім жыцці пасля 20.09. З 21.09. (аж да 27.09.) будзеш больш нервовы, не стаў спраў рубам. Пасля 20.09. — час збірання плёну! Дбай аб сваю бяспеку з 21.09. (да 27.09.), асабліва на дарозе.

**(24.09. — 23.10.)** Час парадкаў і падвядзення вынікаў. Усё, за што возьмешся, удасца. Смела прасі дапамогі. Юпітар памагае табе будаваць аўтарытэт на працы. Схадзі да стаматолага. 16-19.09. маеш вялікі шанц на выйгрыш!

**(24.10. — 22.11.)** Будзеш рашучы, жвавы, удачлівы, бярыся за вялікія выклікі. 17-19.09. адкрыюцца перад табою новыя шанцы. Але 19-21.09. хтосьці быццам бы сімпатычны і спрыяючы акажацца крывадушнікам; добра — пазбудзешся са свайго атачэння такіх асоб. Каля 20.09. не бяры на сябе зашмат работы. 21-23.09. сустрэнеш вельмі цікавых людзей, разлічвай на дапамогу асяроддзя. З 21.09. (да 27.09.) хтосьці абвінаваціць цябе ў памылцы або будзе з табою спрачацца.

**(23.11. — 22.12.)** Будзеш баявіты і непакорлівы. Прытым амбітны і адважны. 17.09. можаш атрымаць нейкі экстра-заробак. Не патрабуй ад каханых асоб зорачкі з неба, бо пасля 20.09. стануць абажаць кагосьці іншага. 17-19.09. не пакрыўдзі кагосьці паспешлівым асуджэннем. 21-23.09. будзеш мець шанц спазнаць таямніцу і зразумець чыесь намеры. Пасля 20.09. добры час на сямейны з'езд.

**(23.12. — 20.01.)** Добры час, добры настрой. Пазбудзешся хвастоў на працы, зрэалізуеш мары. Віццё гняздзечкаканчай да 20.09., займіся каханнем. 19-21.09. на рабоце моцна пільнуй сваіх сакрэтаў. Да 20.09. не эксперыментуй з выглядам. 21-23.09. нагоды зазззяць інтэлектам і задумамі; не дай сябе звесці няшчырым намовам і фальшывай рэкламе.

**(21.01. — 19.02.)** Да 19.09. самы бестурботны час і прыемнасці. Шампанскі настрой з сябрамі. Лёс адменіцца на лепшае. Пазбудзешся нявыгадных абавязкаў. 17-19.09. прыемны час з каханай асобай. Не будзь звышактыўным, адпачывай. 17-21.09. прыйдзецца пайсці на нявыгадны кампраміс.

**(20.02. — 21.03.)** Энергія, інтэлектуальныя выклікі, прыемныя моманты ў пары асабліва пасля 20.09. Малодшая ад цябе каханая асоба (17-19.09.). Эмоцыі дасягнуць зеніту! Ідэальны час на новыя мерапрыемствы, планаванне заданняў, увядзенне змен. 19-21.09. калі хтосьці будзе мець заўвагі да твае працы, паслухай яго. 19-21.09 не дай сябе ўцягнуць у падазроны інтарэс. Пасля 20.09. салідная заплата за працу, а калі яе шукаеш, не разраджвай мабільніка!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

Фота Анны Хомчук



# Паломніцтва на Украіну

**У гэтым годзе праваслаўная моладзь з Гайнаўкі і яе ваколіц правяла канікулы не толькі на фізічным адпачынку, але таксама на духоўным. Передапошні тыдзень канікул мінуў маладым людзям у цудоўнай атмасферы на паломніцтве ў Пачаеў ды Кіеў — сталіцу Украіны.**

У гэтым месцы варта падкрэсліць, што вельмі патрэбнымі з'яўляюцца такія вось выезды. Маладыя людзі шукаюць магчымасці пабачыць важныя ў рэлігійным плане раёны ў свеце. Гэта паказвае, што вера для моладзі многа значыць. Яна любіць пайсці ў царкву, адчувае патрэбу памаліцца і падысці да мошчаў святых, а таксама важнае, што маладыя хочуць дапамагаць іншым.

Паломнікі выехалі позним вечарам у панядзелак 21 жніўня 2017 года. Перад прыездам у Пачаеў яны заехалі ў скіт святой Анны ў Анышкоўцах, дзе выцякае крыніца св. Анны. Некаторыя нават адважыліся цалкам у ёй акунуцца! У гэтай крыніцы, незалежна ад пары года, тэмпература вады складае толькі чатыры градусы па Цэльсію. Потым яшчэ ўсе наведалі Божую Гару, дзе пакланіліся іконам Божай Маці, якія плачуць кроўю (гэта вельмі дрэнны знак).

Уязджаючы ва Украіну, адразу відаць цэркvы — яны прыгожыя і багатыя.

І таксама было ў Пачаеве. Можна сказаць, што пачаеўская Свята-Успенская лаўра проста свеціць ясным святлом! Залатыя купалы цэркваў з'яўляюцца відавочнымі здалёк. Гэта выклікае своеасаблівае ўражанне. З другога боку трэба прызнаць, што ў параўнанні з гэтым, гарады на Украіне выглядаюць даволі кепска. Яны шэрыя, бедныя ..., быццам затрымаліся ў развіцці некалькі гадоў таму назад.

Калі гаварыць пра самую лаўру — яна задбаная, прыгожая, прываблівая. У гэтым месцы хочацца проста быць. Таму мы былі шчаслівымі, што менавіта там, у манастырскай гасцініцы, мы жылі некалькі дзён. Кожны дзень два-тры разы мы прымалі ўдзел у святой літургіі, у нас была магчымасць пакланіцца Пачаеўскай іконе Божай Маці, следу ступні Багародзіцы і мошчам святых манахаў Іова і Амфілохія.

Шмат пачуццяў выклікала магчымасць зыходу ў пячору. Тут трэба дабавіць, што гэтае не так лёгка зрабіць! У невялікую адтуліну трэба ўкласці абедзве рукі, потым схапіць за ручку, перакласці ногі наперад і тады ўжо знаходзішся ў пячоры. Пасля прабывання ў ёй, чалавек адчувае лёгкасць і радасць. Такога пачуцця нельга забыць. У сераду мы наведалі манастырскія могілкі, дзе пахаваны св. Амфілохій, ды Свята-Духаўскі скіт, дзе знаходзіцца крыж пакутніка св. Мікіты Стоўпніка. Гэты крыж бацюшка паклаў кожнаму з нас — ён мае паказаць месца хваробы, пра якую мы не ведаем.

Наступнага дня раніцай мы пакінулі на хвіліну Пачаеў і накіраваліся ў Кіеў. Нашай мэтай была Кіева-Пячэрская лаўра, дзе мы маліліся перад мошчамі манахаў у двух пячорах, па якіх трэба было хадзіць са свечкай у руцэ. Апрача гэтага, мы наведалі м.іншым Успенскі сабор, царкву святых Антонія і Феадосія Пячэрскіх, мужчынскі манастыр Увядзення Багародзіцы ў храм, царкву св. Ільі і жаночы манастыр Пакровы Божай Маці. У нас была таксама магчымасць паглядзець крыху на сталіцу Украіны цераз вокны нашага аўтобуса. Гэта чароўны горад, у якім прыцягваюць увагу залатыя купалы.

Незвычайным вопытам для нас быў прыход у Пачаеўскую лаўру 25 тысяч паломнікаў, якія 25 жніўня прыбылі з Каменца-Падольскага на свята Успення Святой Багародзіцы. Думаю, што ў наш час цяжка пабачыць так многа шчаслівых людзей у адным месцы... Вось, менавіта таму вера павінна займаць важнае месца ў жыцці — яна нас аб'ядноўвае і дае надзею.

Усе апошнія хвіліны на Украіне мы прысвячалі малітве. Нам цяжка было пакінуць такое асаблівае месца. Таму хочам падзякаваць нашым апекунам бацюшку Міхаілу Негірэвічу і бацюшку Андрэю Буслоўскаму ды матушцы Лілі Буслоўскай. Паломніцтва адбылося па благаслаўленні блажэннейшага Савы — мітрапаліта Варшавы і ўсёй Польшчы.

**Наталля ВАСЬКО**
Гайнаўскі белліцэй

Фота Анны Хомчук







ISSN 0546-1960
38